

Свята ў трыццаты раз ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Юбілей «ЗНІЧКІ» ➔ 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3083) Год LX | Беласток, 14 чэрвеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Ці засыплюць нас попелам і смеццем?!

Жыхары Старога і Новага Ляўкова пратэстуюць супраць перапрацоўкі адкідаў побач іх вёскі і ў гэтай справе 5 чэрвеня спаткаліся на сходзе ў святліцы ў Старым Ляўкове. Абмяркоўвалі што рабіць, каб не ўступіў у сілу дазвол Гайнаўскага старасства на перапрацоўку адкідаў, які атрымала МПО — Гарадское прадпрыемства ачысткі ад смецця, суполка з абмежаванай адказнасцю з Беластока. Прадпрыемству дазваляецца перапрацоўваць адкіды, лётныя попелы з торфу і драўніны, без яе хімічнай апрацоўкі, і адкіды абазначаныя кодам 020799 на трох участках № 18/1, 18/2 і 18/3, плошчай у 4,49 гектара, распаложаных непадалёк ад вёскі Старое Ляўкова. Жыхары Ляўкова і наваколных вёсак апасаюцца шкоднага ўздзеяння адкідаў і рашыліся абскардзіць згаданы дазвол Гайнаўскага старасства і дабесці да яго адмены.

— Мы ўжо пратэставалі супраць будовы побач Ляўкова сартавальні смецця і біягазавай устаноўкі. Нашыя пратэсты спрычыніліся, што рэалізацыя гэтых планаў была стрымана. Аднак аб гэтых планах мы ведалі загадзя і свае дзеянні пачалі перад тым, як адпаведныя ўстановы далі дазволы патрэбныя на правядзенне такіх інвестыцый. Зараз нават войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч кажа, што аб планах перапрацоўкі адкідаў побач нашай вёскі даведаўся пасля падпісання дазволу ў Гайнаўскім старастве, а падпісала яго спадарыня Цеслік (Эва Цеслік — намесніца начальніка Аддзялення будаўніцтва і аховы асяроддзя Гайнаўскага старасства, якая займаецца, між іншым, справамі аховы асяроддзя і ўтылізацыі адкідаў — А. М.). У заяве на атрыманне дазволу Гарадское прадпрыемства ачысткі ад смецця з Беластока прад'явіла прапанову выкарыстання адкідаў дзеля паляпшэння сельскагаспадарчых магчымасцей на палях і ў такім выпадку не быў патрэбны дазвол нашай гміны, а толькі Гайнаўскага старасства. Аднак усё гэта можа скончыцца звалкай адкідаў шкодных для нас і для акружаючага асяроддзя, — патлумачыў **Міраслаў Пякарскі**, актыўны ўдзельнік сходу ў Ляўкове.

У дазволе, выдадзеным Гайнаўскім старасствам напісана, што адкіды будуць перапрацоўвацца падчас працэсу R10 — апрацоўка на паверхні зямлі, якая дае карысці для сельскай гаспадаркі або паляпшае становішча асяроддзя.

— У дазволе напісана, што попелы з драўніны і торфу не будуць шкодзіць асяроддзю, але хто дасць гарантыю, што яны бясшкодныя для нас і асяроддзя. Хутчэй за ўсё будуць гэта адкіды з беластоцкай цеплаэлектрастанцыі, якія дагэтуль захоўваюцца непадалёк ад яе. Калі б не былі яны шкоднымі, то надалей там ляжалі б, бо згодна з эканоміяй выгадна трымаць попелы непадалёк ад месца іх узнікнення. Хто будзе лечыць, калі пачнуць хварэць нашыя жыхары. Ёсць таксама небяспека, што беластоцкая суполка МПО можа выступіць за іншымі дазволамі, каб завозіць да нас таксама іншыя адкіды і пасля будзе позна, каб стрымаць гэтыя працэсы, — гаварыў **Міраслаў Барэчка**, таксама актыўны ўдзельнік сустрэчы.

— Мы толькі ў апошні аўторак, 2 чэрвеня, даведаліся аб дазволе Гайнаўскага старасства. З жыхарамі нашай вёскі не праводзіліся ніякія кансультацыі ў гэтай справе. Наш войт Мікола Павільч кажа, што раней нічога не ведаў аб новых намерах беластоцкай суполкі. Дазвол быў падпісаны 25 мая ў Гайнаўскім старастве і Гмінная ўправа ў Нараўцы атрымала да ведама копію гэтага дазволу. Зараз перад намі выхадныя і ў панядзелак апошні дзень, калі падпісаны дазвол не набыў яшчэ юрыдычнай сілы і можа быць адменены. Мы зараз збіраем подпісы пад пратэстам супраць рэалізацыі дазволу на завоз на палі побач Ляўкова адкідаў, і з подпісамі паедзем у панядзелак да гайнаўскага старасты Міраслава Раманюка прасіць, каб ён адмяніў дазвол на завоз на нашы палі адкідаў, — удакладніў Міраслаў Пякарскі.

Некаторыя жыхары Ляўкова ездзілі ў Гайнаўскае старасства, каб даведацца больш падрабязна наконт дазволу, які дало старасства на перапрацоўку побач іх вёскі адкідаў.

— Староста Міраслаў Раманюк сказаў, што не ведаў аб дазволе, які падпісала працаўніца старасства. Абяцаў, што дакладна разгледзіць справу дазволу на перапрацоўку адкідаў. Я спадзяюся, што староста сапраўды разгледзіць умовы падпісання дазволу. Калі пераканаецца, што дазвол шкодны для жыхароў Нараўчанскай гміны, становіцца паставіцца да нашага пратэсту і адменіць дазвол перапрацоўкі у нас адкіды, які дае магчымасць прывозіць да нас вялікую колькасць нечыстотаў, — сказаў **Ян Каролька**.

— Я рассакрэціў, што за незразумелым для нас кодам адкідаў, якія можна было б да нас прывозіць, скрываецца дыятаміт (ziemia okrzemkowa), у якім могуць быць часціцы шкодныя для людскога здароўя. Дазвол Гайнаўскага старасства дае магчымасць завозіць да нас да 22 тысяч тон адкідаў у год і калі дазвол выдадзены тэрмінам на 10 гадоў, то ў беластоцкай суполкі была б магчымасць прывезці на тэрыторыю нашай вёскі больш за 200 тысяч тон адкідаў, — удакладніў Міраслаў Пякарскі.

— За выключэннем адзінак, у нас усе супраць завозу да нас адкідаў і таму мы пратэстуем, — заявіў Юрка Барташук.

— На ўчастках 18/1, 18/2 і 18/3 і побач іх, якія распаложаны непадалёк ад майго дома, могуць пачаць перапрацоўвацца таксама іншыя адкіды пасля атрымання чарговых дазволаў. Далей распаложаныя Ахрымы, Лешукі, Капітаншчына і мы ўсе павінны зараз змагацца за права жыць у чыстым асяроддзі, — сказаў Ян Каролька.

У выхадныя праводзіўся збор подпісаў пад пратэстам супраць дазволу на перапрацоўку адкідаў. Жыхары Ляўкова рашыліся таксама пісьмова абскарджваць дазвол Старасства ў Гайнаўцы ў індывідуальным парадку і другі раз паехаць на размову са старастам Міраславам Раманюком. Падчас сходу паявілася таксама прапанова як мага хутчэй выканаць план добраўпарадкавання прынамсі часткі Нараўчанскай гміны, якая ахоплівае Старое і Новае Ляўкова, і акрэсліць прызначэнне спрэчных тэрыторый на сельскую гаспадарку або будаўніцтва, каб ізноў не з'явілася прапанова прывозіць адкіды на названыя ў артыкуле ўчасткі.

— Мы ўжо размаўлялі з войтам Мікалаем Павільчам, каб зрабіць план добраўпарадкавання зямель вёсак Новае і Старое Ляўкова і суседніх сёлаў, але войт Павільч заявіў, што пакі няма на гэтую мэту грошай. Зараз гэта ўжо трэцяя спроба завозіць у Нараўчанскую гміну адкіды. План добраўпарадкавання нашых зямель мог бы спыніць такія планы, — заявіў Міраслаў Барэчка.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**PS.** У панядзелак, 8 чэрвеня, перад поўднем жыхары Старога і Новага Ляўкова ды суседніх вёсак перадалі на рукі гайнаўскага старасты Міраслава Раманюка пратэстныя лісты, на якіх подпісы паставілі 350 чалавек, а сто асоб у індывідуальным парадку выказалі на пісьме сваю рашучую нязгоду на пабудову звалкі. Староста Міраслаў Раманюк у час сустрэчы з пратэстуючымі паінфармаваў пра пошукі юрыдычных магчымасцей вырашэння праблемы. Далейшы ход справы будзем адсочваць.





# Поўнае адзінства

Зайшлі да мяне некалькі знаёмых. Напачатку пагаварылі пра тое-сёе, ну, і як звычайна, перайшлі да галоўнай тэмы: пра Беларусь. Толькі заікнуліся пра выбары, як памяшканне адразу напоўнілася саркастычным смехам.

— Якія выбары? — прастагнаў адзін з прысутных. — Пра іх і гаварыць не хочацца. Усё там зразумела. Асабіста я не толькі не пайду на выбарчы ўчастак, каб прагаласаваць, але нават ні ў чым удзелу браць не буду. Ні ў агітацыі, ні ў назіранні, ні ў чым іншым. Хопіць з мяне.

— А ў байкоце? — неяк вяла, зусім без энтузіязму спытаў нехта.

— Які байкот?! — памяшканне зноў напоўнілася саркастычным смехам. — Хто яго зможа правесці? Аб'явіць байкот значна лягчэй, чым насамрэч яго зрабіць. А так абвесціць для галачкі, і пасля нічога не рабіць, гэта не байкот, а прафанацыя.

— Дык якая розніца дзе нічога не рабіць, ці нічога не рабіць на выбарах, ці нічога не рабіць на байкоце, ці нічога не рабіць у міжвыбарчы перыяд? — паспрабаваў нехта ўсё перавесці ў смех. Але жарт не спрацаваў. Яго нават не пачулі.

— І размова тут нават не ў немажлівасці добра правесці выбарчую кампанію, а ў бессэнсоўнасці гэтых дзеянняў, — працягвалі абмяркаванне хлопцы. — Па-першае, падлік галасоў пройдзе па старой схеме. Але нават, каб уявіць цуд, што нешта там у іх не спрацавала і лічбы агучылі на нашую карысць! Што далей? Няўжо хтосьці верыць, што ўладу ў нас могуць вось так узяць і аддаць?! Але нават калі ўявіць і другі цуд, што ўладу ўзялі ды аддалі, ці яе сілай забралі, няважна як, то што далей? А далей прыйдуць зялёныя чалавечкі без апазнавальных знакаў, але з аўтаматамі, і некаму трэба будзе з імі змагацца. Украіна — яскравы прыклад таго, што проста так у спакоі нас не пакінуць.

— Ды нават не гэта галоўная праблема, — размова пачала набываць больш хуткі, актыўны і нават агрэсіўны характар. — Народ у нас не імкнецца да перамен. Ім вазьмі і ўсё прынясі. А самі палец аб палец стукнуць не хочуць. Толькі ў гэтую зомбаскрынку ўглядаюцца і вераць расійскай прапагандзе.

— Вось-вось, сапраўды, — хорам пагадзіліся прысутныя. Вельмі спадабалася ўсім апошняя выснова пра народ. — Зусім мазгоў не маюць. Вераць усяму, што ім прапагандысты на вушы вешаюць.

— Ды і не ў гэтым галоўная праблема, — усё больш распальваліся хлопцы. — Праблема ў тым, што яны хочуць у гэта верыць. Яны вераць у падман нават тады, калі добра ведаюць, што гэта падман. І ўсё гэта толькі для таго, каб апраўдаць сваю бяздзейнасць. Так, так. Яны так апраўдваюцца за сваю злачынную бяздзейнасць не толькі перад іншымі, але і перад сабой.

— Што праўда, то праўда, — пацвярджалі хлопцы праўдзівасць сваіх жа слоў. — Яны нічога рабіць не хочуць. Баяцца. Усяго баяцца — улады, начальніка, жонкі, усіх. Вось пытаюся неяк у аднаго, ці пойдзе ён на выбары. А той кажа: „А які сэнс туды хадзіць?". Вы ўяўляеце! Тады я яго пытаю ці змены надыдуць. А ён мне кажа, што ніякія змены не надыдуць хоць ты трэсні. Я кажу яму, што як не хочаш ісці на выбары, дык байкатуй іх. А ён гаворыць, што і ў гэтым няма сэнсу. Што ўсё адно ўладу ніхто не аддасць. А калі хто захоча не забраць, то прыйдуць зялёныя чалавечкі, як на Украіне, і пачнецца страляніна. Вось так, бачыце, яны апраўдваюць сваю бяздзейнасць.

— Хлопцы, а мы самі сябе хоць раз збоку паслухалі? — раптам нечакана завярнуў размову ў другі бок адзін з прысутных, якому напачатку не ўдалося пажартаваць, таму ён сядзеў пасля гэтага і не дыскутаваў, а толькі слухаў астатніх. — Вы ж зараз нагакалі на іншых, што яны не робяць таго, чаго і мы рабіць не збіраемся. Ні ісці на выбары, ні байкатаваць іх, ні праганяць нейкіх там чалавечкаў са сваёй зямелькі. Вы зараз абвінавачвалі іншых у тых развагах і апраўданнях бяздзейнасці, носьбітамі якіх мы самі і з'яўляемся. Ці не мы напачатку размовы казалі пра бесперспектыўнасць і бессэнсоўнасць усялякіх дзеянняў? Сапраўды. Я бачу, што зараз у апазіцыі і народа нарэшце дыйшло поўнае адзінства поглядаў і думак.

Усе апусцілі галовы і замоўклі. А маўчанне, як кажуць у народзе, знак згоды.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Гэта не смешна

Рэальнасць, якою так бясклапотна пацяшаемся, прыгадвае пястоту з ртуццю. У абодвух выпадках гэта можа прывесці да смерці. Рэальнасць, як і ртуць, мае супертаксічныя ўласцівасці. Хто забаўляецца падурному, па-дурному і гіне. Што тычыцца ртуці, старажытныя ўжо ведалі, што яе спажыванне прыводзіць да праколу кішэчніка. Тым не менш, нягледзячы на павагу да яе таксічных уласцівасцей, яны мелі да яе аднолькава пагардлівае стаўленне, як сучасныя маюць да рэальнасці. Рымлянін Пліній казаў пра яе як пра «шумавіну і выпарэнні срэбра». Ён быў здзіўлены тым, што ўсе вядомыя яму целы плаваюць на ртуці. Усе, акрамя золата. Гэта, у сваю чаргу, у значнай ступені, вельмі абразіла Вітрувія, які не мог зразумець, чаму ў ёй патанае шляхетны кавалак золата, а звычайныя камяні плаваюць на паверхні, як лодкі здробленыя з кары. Сёння мы ведаем, што гравітацыя ртуці, толькі трохі ніжэйшая чым золата, выклікае выцісканне цел ад яе лягчэйшых. Гэтыя яе ўласцівасці выкарыстоўвалі шмат стагоддзяў асманскія халіфы, загадваючы напаўняць ртуццю палацавы басейн, пасля чаго плавалі на лодцы пад апладысменты запрошаных гасцей. Яны не ведалі, што пары ртуці, як пары абсурду, якія ўвесь час прасочвае з сябе рэальнасць — смяротна атрутныя.

Калі справа ў рэальнасці, то ў яе парах... абсурду, глупства, вар'яцтва плянёскаемся штодзень. Супраць сябе, але таксама часта па ўласным жаданні. Наколькі нам вядомы яе таксічны эфект? Падобна як ртуць, рэальнасць немагчыма фізічна ахапіць — ані пальцамі, ані любымі даступнымі інструментамі. Тым не менш, мы ведаем, па-за ўсякім сумневам, што яна ёсць. Фармірыем яе кожны дзень, кожным выказаным словам, думкай, дзеяннем. Калі мы ставімся да яе з павагай, яна вяртаецца да нас спачувальным рэфлексам. Чым дурней пра яе гаворым, думаем ці робім, тым больш нахапаемся яе атрутных газаў. На жаль, надалей не ўсведамляем таго, якое гэта для нас смяротнае. Хоць рэальнасць, як кроплі ртуці, можна па жаданні дзяліць на больш дробныя часткі, а затым зноў аб'ядначаць разам, аднак не беспакарана. Толькі матэматычна можна дзяліць цэлае бясконца. З той рэальнасцю гэта немагчыма. Немагчыма знесці дом і адным мазком цэменту збудаваць яго нанова. Немагчыма кагосьці забіць і ўваскрэсіць яго адразу да жыцця, пачухаўшы сабе мімаходзь азадак.

Калі прыём унутр ртуці прывядзе да перфарацыі кішэчніка, дык плаўленне ў абсурдзе дае ў выніку дзіравасць чалавечых мазгоў. Вось прыклад з апошніх дзён. Прадстаўнікі ісламскай дзяржавы (IS) выдалі ўказ, які забараняе развядзенне галубоў, якія, на іх думку, недастаткова хаваюць паміж пер'ем свае палавыя органы, што зневажае Алаха. Гэта не смешна! Забарона мае давесці да канца гэтыя «злачынныя метады, шкодныя для мусульман». Людзям, якія не прытрымліваюцца забароны, пагражае лупцоўка, арышт або нават смерць. Яшчэ больш абсурднага яду не ўяўляю. Але гэта яшчэ не ўсё. Іншы прыклад перфарацыі мозга, гэта сапраўдны зварот турэцкай ветэрынарнай палаты накіраваны... да катоў напярэдадні парламенцкіх выбараў у Турцыі, якія адбыліся ў мінулую нядзелю. «Мы папярэджваем нашых каціных сяброў, каб трымаліся далей ад прылад для размеркавання электраэнергіі, бо ў адваротным выпадку разгляднем нашы сяброўскія адносіны». Гэты заклік вельмі сур'ёзных адукаваных людзей адносіўся да перашкод падчас мясцовых выбараў у мінулым годзе, выкліканых нейкім няшчасным катом, які, узлезшы на электрычную цягу, выклікаў аграмадную аварыю электрычнасці па ўсёй краіне.

Як я пісаў вышэй, немагчыма падзяліць рэальнасць у бясконцасць. У Польшчы гэты падзел ужо дасягнуў мяжы чалавечай уявы. З палітычных, ідэалагічных, светапоглядных, рэлігійных рознагалоссяў падымаюцца штораз шчыльнейшыя яды абсурду. Мала ўжо не хапае, каб камусьці сталі перашкаджаць геніталіі галубоў... Ці не пара спыніць чуханне па азадках. Так мімаходзь. Гэта сапраўды не смешна. Пара пачухацца ў галаву. Пара.

**Міраслаў ГРЫКА**



*Вачыма еўрапейца*

# Заслона(ы) Язэпа Драздовіча

Тры тыдні таму я апублікаваў у «Ніве» інтэрв'ю з Васілём Драньконь-Майсюком, маладым драматургам, якога я сустрэў падчас свайго апошняга візіту ў Мінск, і які скончыў у красавіку п'есу па-беларуску «Сатурнянка». Прысвечана яна Язэпу Драздовічу (1888-1954) — пісьменніку, філосафу, этнографу, фалькларысту, археолагу і аматару астраноміі. Як падкрэсліваюць мастацтвазнаўцы і гісторыкі, у першую чаргу, «як мастак, гравёр і скульптар быў ён адной з самых цікавых фігур беларускай культуры XX стагоддзя, а яго жыццё можа быць выдатным прыкладам адданасці мастацтву, адкрытасці розуму і запалу да роднай гісторыі». Яго твор — Пагоня стала сімвалам нацыянальнага беларускага адраджэння. У гісторыю мастацтва ўвайшлі пейзажы беларускай прыроды і графікі тамашніх замкаў. Як адзін з нешматлікіх мастакоў першай паловы XX стагоддзя чэрпаў ён ідэі з роднай гісторыі і выкарыстоўваў багацце форм народнай культуры. Займаўся таксама лексікай беларускай мовы і запісваў народныя песні.

Калі я пасля вяртання з Мінска прачытаў «Сатурнянку», успомніў пра тэатральную заслону (і, верагодна, нават дзве), якую Язэп Драздовіч намаляваў у Беластоку, знаходзячыся тут перад апошняй вайной па запрашэнні гуртка Таварыства беларускай школы (1927-1935). Пра факт яго прабывання ў Беластоку і яго ўспаміны аб цяперашняй сталіцы Падляшша можна прачытаць на сайце Радыё Рацыя «Беларускі Беласток»: «У 1933 годзе ў сакавіку беластоцкія тэбэшоўцы запрашаюць да сябе слыннага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, абяцаючы яму заробак за афармленне стэндаў, плакатаў, тэатральных дэкарацый. 6 сакавіка Язэп Драздовіч прыязджае ў Беласток. „Па свайму месцу распалажэння Беласток нічым не розніцца ад новаўзбудаваных Баранавіч — ні ракі, ні возера, ні прыгожых узгор'яў ці даліны (...)", — згадвае ў «Дзённіках». 8 сакавіка ўжо малюе шыльду на памяшканне акруговай управы ТБШ. Затым па заказе Беластоцкай акруговай управы ТБШ пачаў маляваць дэкарацыі для спектакляў. У 1933-1935 гадах Беластоцкая акруговая ўправа ТБШ пачала адчуваць фінансавыя праблемы (...). Праз пэўны час ТБШ знайшло 25 злотых для Драздовіча, за якія мастак паехаў у Вільню".

Ад многіх гадоў двухбакова намаляваная ім у той час заслона-пейзаж шырыней у больш чым чатыры метры і вышынёй больш чым у два метры ляжыць на падстрэшку сядзібы Галоўнага праўлення БГКТ па вуліцы Варшаўскай. Калісь яна яшчэ выстаўлялася — заслоняла дзіры ў сцяне ці была дэкарацыяй навагодніх забаў, арганізаваных БГКТ, але і часам была фонам для выступаючых тут калектываў. Калі некалькі дзён таму я кінуў на яе вокам, была яна згорнутая, нічым не забяспечаная, прытым прыгнечаная нейкімі прыборамі. Самастойна я не даў рады яе разгарнуць. Гісторык Алена Глагоўская ўпэўненая, што там былі дзве заслоны пэндзля Язэпа Драздовіча. Гэтак вынікае з іх апісання ў 1998 г. у «Беларускім календары» памерлым у красавіку Уладзімірам Юзвюком, шматгадовым сакратаром ГП БГКТ. Сама Алена Глагоўская разам са студэнтамі дастала яе на свята дня, адзін раз, у 2002 годзе з нагоды выставы ў музеі імя Альфонса Карнага, якая суправаджала арганізаваны ёю семінар, прысвечаны беларускай культуры ў II РП. Як цяпер успамінае, ужо тады гэтай працы патрэбная была кансервацыя.

Сёння ў БГКТ ніхто не памятае, якая была яе (іх?) гісторыя: хто яе (іх) захоўваў у час вайны, як трапіла яна (яны) у БГКТ... ну і што з другой заслонай. Як сказаў мне старшыня Таварыства Ян Сычэўскі, няма грошай на яе кансервацыю, ані шанцаў — як дадаў — на іх здабыццё «без шкоды для фінансавання дзейнасці гэтай арганізацыі». Няма таксама ідэі на яе наказ ці выкарыстанне. Ян Сычэўскі прызнаўся мне, аднак, што БГКТ будзе гатовае перадаць яе ў рукі прафесіяналаў, найлепш Падляшскаму музею, таму што Беларускі музей у Гайнаўцы — на яго думку — не мае дастатковай базы. Дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі ў размове са мной дэкляраваў ахвоту «запекавацца» ёю (імі?). Неўзабаве мае намер паразмаўляць на гэтую тэму з кіраўніцтвам БГКТ. Пра тое, што станецца з гэтым беластоцкім творам (творамі?) буду інфармаваць у «Ніве».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Свята ў трыццаты раз



Нашы літаратары (злева) Віктар Швед, Міра Лукша, Юры Баена з У. Ліпскім, Т. Стружэцкім і Э. Швайко

**Амаль да сарака салістаў і ансамбляў прадставілі сябе ў апошні маёвы нядзельны пасляабедзенны час у беластоцкім парку Плянты ў час трыццатага ўжо «Свята беларускай культуры». Яго спецыяльнымі гасцямі на гэты раз былі ансамбль беларускай песні «Церніца» і народны фальклорны тэатр танца «Карагод» з Мінска, якія напярэдадні выступілі таксама на гарадскім стадыёне ў Дуброве-Беластоцкай падчас мясцовага беларускага народнага фэсту, сарганізаванага, так як і Свята, Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Па-за беларускімі калектывамі з Беласточчыны на Плянтах адрэкамендаваліся пераможцы сёлетняга выпуску школьнага конкурсу «Беларуская песня».**

Віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень, адкрываючы сёлетні выпуск Свята, сказаў між іншым:

— Я хацеў бы прывітаць удзельнікаў нашага мерапрыемства, на якім свае мастацкія дасягненні, сваё спявацкае майстэрства паказваюць тыя, для каго родная культура, родная песня гэта вялікая каштоўнасць у жыцці, самае дарагое багацце, якое яны зберагаюць у сваіх сэрцах і перадаюць маладым пакаленням

Затым у размове з «Нівай» старшыня БГКТ Ян Сычэўскі дадаў, спасылаючыся на юбілейны ўжо выпуск свята:

— Падчас трыццаці гадоў усё памянялася. Выраслі новыя пакаленні беларусаў, новыя творцы беларускай культуры, новыя выканаўцы, змяніўся рэпертуар. З пакалення ў пакаленне, аднак, добрая ідэя перадаецца. У гэты час узнікла многа новых калектываў. У цяперашні час у нас ёсць шэсцьдзесят тры (звязаных з БГКТ — М. Х.), а трыццаць гадоў таму было каля дваццаці. Яшчэ раней, у пасляваенны час, намнога больш было тэатральных груп, чым спявацкіх, якіх выступала ў нас толькі пяць ці шэсць. Так што беларуская песня на Беласточчыне развіваецца. І гэта добра, таму што песня гэта і ёсць душа народа. Без песень няма тоеснасці, пачуцця беларускасці.

Цяжкая задача стаяла перад калектывам «Лянок» з Непублічнага дзіцячага садка № 1 імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, што дзейнічае там з 2012 года, паколькі ён выступіў першым. Дзеці, аднак, не паказалі страху ад сцэны, а Іаанна Хількевіч, якая разам з іншай настаўніцай з таго ж садка Мартай Зінкевіч стварылі калектыў і ім апякуюцца, зараз перад прэзентацыяй распавяла «Ніве»:

— Калектыў стварылі мы па ўнутранай патрэбе дапамогі ў развіцці дзяцей і падтрымання нашай беларускай культуры праз песні, вершы, спектаклі, якія рыхтуем. Такім чынам, нашы дзеці і спяваюць, і танцуюць, і дэкламуюць, і іграюць у спектаклях па-беларуску. У нас ёсць вельмі таленавітыя дзеці. У розных беларускіх конкурсах атрымліваюць яны шматлікія ўзнагароды.

Марта Зінкевіч:

— Наш дзіцячы сад не з'яўляецца беларускім, але праваслаўным, і мае цудоўнага заступніка, які быў сынам гэтай зямлі. Я думаю, што і ён гаварыў па-просту, па-свойму. І таму мы стараемся выхоўваць нашых дзяцей у мясцовай культуры, падляшскай. Мы не спрабуем іх неяк нацыянальна ўстаўляць.

У цэлым, удзел маладых выканаўцаў выклікаў асабліва шмат радасці і эмоцый. Гэтак было ў выпадку 11-гадовага Адрыяна Данілюка, праўдзівага шоўмена з Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, падрыхтаванага Юрым Астапчуком (будучыня «Прымакоў»?) ці яго аднагодкі Аляксандры Астапчук, вучаніцы пачатковай школы ў Сабалеве, якая пранікнёна і ў велізарнай засяроджанасці выканала песню а капэла. Бацька Аляксандры, Багдан, пасля яе зыходу са сцэны прызнаўся «Ніве»:

— Оля на Фестывалі беларускай песні сёлета выступала ўжо ў трэці раз. Спявае амаль з нараджэння. Рэпертуар мы выбіраем з інтэрнэту і з таго, што пачуем на фестывалях, фэстах, такіх святах як гэтае.

Традыцыйна канцэрт у час Свята суправаджаў кірмаш кніг, у тым ліку выдадзеных Цэнтрам прэсы і кнігі славянскіх народаў у Варшаве. Можна было набыць кнігі і ўзяць аўтографы ад Валянціны Мядзведзь і членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа»: Міраславы Лукшы, Віктара Шведа ды Юрыя Баены. Пры нагодзе гутарак падчас Свята нашых літаратараў з Тадэвушам Стружэцкім, былым віцэ-міністрам культуры Беларусі, у цяперашні час старшынёй Беларускага фонду культуры, Эдуардам Швайко — дырэктарам Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве ды галоўным рэдактарам мінскіх дзіцячых часопісаў «Вясёлка» і «Буся» Уладзімірам Ліпскім устаноўлена, што ў вераснёвым выпуску «Вясёлкі» будуць апублікаваны вершы для дзяцей беларускіх паэтаў з Беласточчыны.

Хапала таксама латкоў з рукадзеллем народных мастакоў з Беласточчыны і Гродзеншчыны. Нязменна здзіўлялі карункавымі вырабамі і ручной вышыўкай крыжыкам і кручком Галіна Бірыцкая з Плянты Нараўчанскай гміны і Вольга Нестарук з Крывятыч Арлянскай гміны. Астатняя займаецца гафтам і ткацтвам, а яе ручнікі з беларускімі ўзорамі ўжо здалёк кідаліся ў вочы. Вольга Нестарук:

— Я не толькі вышываю, але і сама палатно тку. У мяне ёсць свой ткацкі станок. У нас калісь ільняныя кашулі называлі сарочкамі. Ну і праўда, што сарочка, бо як сорак раз не возьмеш ільну ў рукі, не абробіш дакладна, то нічога не атрымаецца. Гэта цяжкая праца. Трэба папалоць, пабіць яго, паслаць, каб высах і ў церніцы перацерці, трапаць, на шчотках часаць, і калі ён ужо просты, зноў маткі прышлыкаваць да ткання, і ў попеле выварыць, і падбяліць трошку. На канец узяць лён на кросны і ткаць. Але людзі цікавяцца такімі вырабамі. У пятніцу перад гэтым Святам, у Беластоку перад ратушай былі сустрэчы сельскіх гмін, дык мае працы выклікалі немалую цікавасць.

З Гродна прыехалі тры жанчыны з Народнага аматарскага аб'яднання майстроў і мастакоў-аматараў абласнога цэнтра «Гарадзенскі каларыт», якое аб'ядноўвае каля трохсот майстроў. Сярод іх была Ядвіга Віцько:

— Усё, што мы сюды прывезлі, мы зрабілі сваімі рукамі ў нацыянальным стылі: і ручнікі, і абрусы, і фартухі, але і з больш сучаснымі ўзорамі і аздабленнямі сумачкі або гліняныя цацкі. Як члены аб'яднання часцей за ўсё ездзім у Польшчу, асабліва ў Беласток. Са сваімі вырабамі ў Гродне рэгулярна выходзім у горад у вызначаныя дні і іх прадаем. У нас ёсць спецыяльны дазвол на гандаль і, вядома, за гэтую дзейнасць мы адводзім падаткі.

На сцэне выканаўцы з Беласточчыны прадстаўлялі па адной песні. Пасля кожных некалькіх песень свае ўмеласці ў танцавальна-тэатралізаваных сцэнах паказваў «Карагод», які працуе пры Мінскім раённым культурным цэнтры з 1985 г. Яго мастацкі кіраўнік з 1999 г., былая салістка «Карагода» Стэла Кузняцова паміж яго выступамі распавядала «Ніве»:

— Без лішняй сціпласці я павінна прызнацца, што наш калектыў шырока вядомы ў Беларусі. Шмат падарожнічаем таксама ў многія краіны і паказваем твар Беларусі, усюды — на мой погляд — з поспехам. Мы — аматарскі калектыў і нашы сябры працуюць кожны дзень у розных прафесіях, а некаторыя яшчэ вучацца ў вышэйшых і сярэдніх вучэбных установах. Мы не займаемся танцам дзеля танца: от, выйшлі і проста станцавалі. Кожны з нашых танцаў гэта маленькі спектакль. Падчас выступаў таксама трохі спяваем.

Гучнымі апладысментамі прымаліся, між іншым нумар «Карагода» з дапамогай бытавых «інструментаў» (прас, маслабойка і г.д.) або гумарыстычна-какетлівыя танцы «Падушачка» і «Свадзьба ў Драгічыне», якія спасылаюцца на традыцыі мясцовасці, у якой нарадзіўся заснавальнік групы, памерлы васямнаццаць гадоў таму Аляксандр Баканаў. На заканчэнне Свята прадставіў сябе вядомы ўжо на Беласточчыне з папярэдніх выступленняў гурт «Церніца» (існуе з 1984 года), які штодзень працуе пры Мінскім культурна-спартыўным цэнтры.



«Лянок» і Іаанна Хількевіч



Публіка з адважным танцорам

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Свята Дубровы
## — дэманстрацыя беларускасці

Сёлетнія Дні Дубровы-Беластоцкай праходзілі вельмі шумна. Юбілейныя дваццатыя святкаванні дзён горада пачаліся футбольным турнірам. Цэнтрам горада прайшоў карагод у суправаджэнні духавога аркестра. Былі выступы спартсменаў, салістаў ды паказ коней сакольскай пароды. Аднак, як аказваецца, большасць жыхароў Дубровы і навакольных мясцовасцей чакала беларускага фэсту. Той з'яўляецца неад'емнай часткай святкаванняў ужо ад дваццаці гадоў.

— Беларуская меншасць у нашай гміне вельмі добра сарганізаваная і актыўная. Можна сказаць, што яны хочуць паказаць сваю прысутнасць, — кажа дырэктар Асяродка культуры ў Дуброве-Беластоцкай Мацей Сулік. — Гэта прымушае мяне, каб арганізоўчы розныга тыпу мерапрыемствы, памятаць пра беларусаў. Хачу дадаць, што памятаю аб іх заўсёды і з прыемнасцю запрашаю беларускіх артыстаў так з-за мяжы, як і з Падляшша.

Дні горада пачаліся футбольным турнірам паміж камандамі самаўрадаўцаў і прадстаўнікоў мундзірных служб. Аднак найбольш людзей прыйшло на чарговы пункт праграмы — беларускі фестываль.

— Дзе грае беларуская песня, там і я, — кажа жыхар Дубровы, Баляслаў. — Я сам з паддуброўскай вёскі. Калі слухаю беларускія песні, прыпамінаецца маладосць. Мы заўсёды так спявалі. Шкада толькі, што так рэдка бываюць такія мерапрыемствы. Кожны месяц павінны адбывацца!



Выступае Янка Пятушынскі з Грабянёў

У час галоўнага канцэрта на гарадскім стадыёне гасцям і жыхарам горада прэзентаваліся беларускія групы. На сцэне выступілі падляшскі калектыў „Калінка" і беларускі ансамбль „Церніца" з Мінска.

— Гэта вельмі прыемна, што розныя народы спяваюць на нашай мове, — адзначыла вакалістка беларускага калектыву „Церніца". — Нам вельмі падабаюцца ўсмешкі людзей, і тое, што людзі так пільна нам прыглядаюцца. Я заўважыла, што ведаюць словы нашых песень, гэта вельмі прыемна.

Варта падкрэсліць, што на Дуброўшчыне людзі яшчэ карыстаюцца роднай беларускай мовай. Усе, арганізаваныя Асяродкам культуры ды іншымі арганізацыямі мерапрыемствы з ухілам на беларускасць сустракаюцца з цікавасцю, што сведчыць аб пачуццях прыналежнасці да беларускай грамады.

— Гэта свайго роду таксама прапаганда, каб людзі, якія яшчэ размаўляюць „па-простu" — як яны гавораць, не забывалі пра сваю культуру, пра сваю мову, пра сваю песню, — тлумачыць віцэ-старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень. — Таму, што гэта самае вялікае іх багацце, духоўнае багацце, нашае, па сутнасці, багацце. Саромецца таго не трэба, наадварот, трэба гэтым ганарыцца, што гэтае ёсць. І каб яно не прападала, трэба гэта захоўваць і перадаваць наступным пакаленням.

Дуброўшчына памятае яшчэ часы, калі ў многіх вёсачках самастойна існавалі аўтэнтычныя фальклорныя калектывы. Галоўнай адметнасцю іх была манера выканання, захаванне дыялектнай асновы твораў і напеўныя мелодыі, дзякуючы таму адрозніваліся рэгіянальнымі асаблівасцямі. Такой вёскай былі паддуброўскія Грабяні. Да сёння ў ёй застаўся апошні спявак— Янка Пятушынскі, якога таксама можна было пабачыць на сцэне са „сваімі песнямі".

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Куды дзеўся апетыт

— Мая саракагадовая ўнучка ўжо столькі гадоў на дыеце, — кажа са спачуваннем і недаразуменнем Антаніна з Крынак, якой ужо больш за восемдзесят.

— Доктар прыпісаў?

— Не, сама захацела. Бядначка, зусім мяса не есць, часам дзе якую рыбу скубне, ніякіх цукеркаў, а хлеба — толькі лустачку ў дзень. Вельмі стараецца не патаўсцець. На Дзень маці тут вялікае застолле мне сарганізавалі, а яна толькі паглядзела на поўныя смакаты талеркі і, амаль нічога не пакаштаваўшы, пайшла.




Сённяшні харч Антаніны

— Значыць, добра ёй жывецца. У іншым выпадку і без дыеты згубіла б лішнія кілаграмы.

— Мабыць, някепска. Мужык у яе спакойны, праца ёсць, грошы ёсць, бацькі дапамагаюць і дзеткам есці зварыць пакуль дачка з працы вернецца. Маленькая Оля толькі грыбны суп прызнае. Нават калі варыцца іншы, трэба хацця б з дзве лісічкі туды закінуць, інакш у рот не возьме. Пакаштуйце шакаладку, засталася з учарашняга застолля. Цэлая каробка, ніхто не есць. Нават дзеці не бяруць. І мне есці не хочацца. Вось мой харч, — вымае з каробачкі з-пад маргарыну лякарствы, — адзінаццаць гатункаў, на ўсе хваробы свету. Ем іх жменямі, па некалькі разоў у дзень — на сняданак, полудзень і вячэру. Гэтыя чырвоныя надта добрыя на пухліну, прыпісала мне іх крынская доктарка.

А калісь усё смакавала — мяса, свойскае масла, мамін крупнік, забелены сырым малаком, суп з лебяды. Ведаеце, што такое лебяда? Кажуць, „у гародзе лебяда — не ідзі замуж, бо бяда". З маладзенькай крапівы таксама суп варыла. Пытаецеся пра рэцэпт? Зусім просты. Дастаткова нарэзаць дробнымі кусочкамі бульбу, укінуць у гаршчок разам са жменькай круп і солі, а калі зварыцца, дадаць дробна нарэзаныя лісточкі крапівы. Смак крапівы вядома які. П'яце крапіву? Я таксама п'ю. Такі суп найчасцей спажывалі ў Пятроўку (Пятровы пост). Вось зараз ён і пачнецца. Калісь у хаце не дазвалялася есці таго, хто што хацеў, а толькі тое, што мама дасць. У вайну зусім не было чым жывата запоўніць. Помню як эсэсаўцы з чарапамі на шапках сцерaглі ўваходу ў лес. Каб туды пайсці, патрэбны былі спецыяльныя білеты. Схопленым у лесе без білета забіралі збанок з ягадамі і на іх вачах разбівалі. Мяне і малодшую сястру Ліду ў лес вадзіў старэйшы брат Іван. Добра помню гэтыя ягаднікі. Я і сёння магла б вам іх паказаць. Не ведаю як гэта магчыма, але пад канец жыцця вобразы дзяцінства і маладасці ажываюць, становяцца больш выразнымі, а тое, што цяпер, амаль не існуе.

Ягады збіралі мы ў гліняныя, абвязаныя тасёмкай збанкі з вухамі, — вяртаецца да ўспамінаў Антаніна. — Запоўнены збанок зверху прыкрывалі папаратнікам, абвязвалі тасёмкай, і так неслі дахаты. Дзецям надта хацелася салодкага, а ягаднае варэнне было адзінай асаладай цяжкага ваеннага часу. Для свае распусты збіралі мы таксама лясныя арэхі. Найбольш іх расло ў Ялінавым Лясковым Рове. Па грыбы хадзілі на Каменную Гару. Чаму ж я ўсё гэта так добра помню, — штораз больш здзіўляецца Антаніна.

— Усяляк жылося, але мне яшчэ пашанцавала. У бацькоўскай хаце заўсёды быў свежы грош і ў параўнанні з суседзямі панаваў у нас дабрабыт. У школу хадзіла я разам з Любай, у якой было яшчэ трое братоў і столькі ж сясцёр. Па натуры я надта цікавая, таму, між іншым, любіла лётаць да яе ў госці. Калі б я не зайшла, заўсёды там бондачкі пякліся. Ведаеце што гэта такое? З жытняй мукі, солі і вады загняталі вялікі камяк звычайнага цеста, з якога фармавалі немалыя, круглыя аладкі. Клалі іх непасрэдна на пліту і так яны пякліся. А колішняя пліта не такая як цяпер, ніхто яе тады не глянцаваў. Хацелася гэтае пабачыць і не толькі пабачыць як пакаштаваць. Пра кусочак бондачкі прасіла я старэйшую за Любу сястру Веру, якая сама іх пякла. Яна пякла, а ўсе астатнія бралі нарасхват.

Цяпер наадварот, усяго пад дастаткам, але апетыту няма.

**Тэкст і фота Іааннв ЧАБАН**

Галіна БІРЫЦКАЯ

## Ландыш

*Зноў прыйшоў май.*
*Ландыш белы зацвіў.*
*Помню, як хлопец букет*
*Духмяных ландышаў*
*мне падарыў.*
*Падарыўшы букет,*
*Цёплыя словы ён гаварыў.*
*Адчувала сябе шчаслівай.*
*Маладая была.*
*Свет тады іншы быў.*
*Праходзяць за годам год,*
*Ландыш цвіце зноў і зноў.*
*Няма ўжо таго хлопца,*
*І з ландышам*
*цёплых слоў.*

# Па мінскіх слядах мастацтва (2)

Па профілю дзейнасці і па канцэпцыі Цэнтр сучасных мастацтваў падобны на галерэю «Ў». Цэнтр быў створаны ў 2011 годзе. У прынцыпе гэта «музейна-выставачная арганізацыя, дзейнасць якой накіравана на развіццё сучаснага айчыннага мастацтва ў кантэксце сусветнага мастацкага працэсу, на распрацоўку і рэалізацыю праграм і праектаў у галіне сучаснага мастацтва, архітэктуры і дызайну ў краіне і за мяжой». Я даехаў сюды «пры нагодзе» чарговага чытання з удзелам акцёраў навастворанай беларускай драмы, сарганізаванага Цэнтрам беларускай драматургіі, які працуе пры Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (між іншым пра гэта ў наступны раз). Да чытання, аднак, я меў крыху часу, таму заглянуў у выставачныя залы Цэнтра, шырока размешчаныя на двух паверхах. Якраз прадстаўлялі тут выставу «СТИМПАНК и другие действующие лица» групы выдатных беларускіх сучасных мастакоў вядомых таксама на Захадзе, сярод іх: Уладзіміра Цэслера, Дзяніса Барсукова, Марыны Барысенка, Вадзіма Качана, Ганны Сілівончык ці Андрэя Шчукіна. Стымпанк (англ.: steam — пара) — гэта адлюстраванне прыдуманага, фантастычнага свету. Побач карцін ёсць тут таксама ўсе віды мастацкіх аб'ектаў, якія часам нагадваюць нутро рознага віду механізмаў. Гледзячы выставу, я слухаў Уладзіміра Галака, куратара тэатральных праграм ЦСМ:

— Наш Цэнтр быў створаны на аснове творчых майстэрняў жывапісу, графікі і скульптуры імя народнага артыста Беларускай ССР Міхаіла Савіцкага. З 1968 года працавалі ў іх мінскія мастакі. Гэтага тыпу дзяржаўнага цэнтра, які б праграмна займаўся развіццём сучаснага мастацтва ў краіне і за мяжой, які рыхтаваў бы такога тыпу выставы сучаснага мастацтва, і ў той жа час паказваў неакадэмічныя тэатральныя ці танцавальныя пастаноўкі, кінапраекты, займаўся гарадскімі праектамі і г.д., да 2011 года ў Беларусі не было. Няма ў нас сацкультурных умоў, як гэта скажам, каб менавіта вулічны мастак мог бы існаваць. Сучаснае мастацтва наогул у нас у стане зараджэння якога-небудзь пошуку. Вылучэнне сучаснага мастацтва ў нас простае: калі ты не адпавядаеш галоўнай лініі афіцыйнага мастацтва, можна прылічыць цябе да нейкіх нефармалаў, у тым ліку і да паняцця «сучаснае мастацтва», якога няма ў беларускіх слоўніках. Многае залежыць ад таго, як разумеем гэта мы — куратары.

Невыпадкова метро, трамваем і пешшу дабіраўся я на ўскраіну цэнтра Мінска ў «Студыю 67», якая — роўная маладым стажам з ЦСМ — існуе ад пяці гадоў. Тут я дамовіўся на сустрэчу ў сувязі з акцыяй, арганізаванай з нагоды Дня супраць гамафобіі і дзеля талерантнасці. «Студыя 67» гэта шматфункцыянальная прастора, якая ўключае сцэну і велізарны кінаэкран, а таксама мультымедыя — аўдыторыю з інтэрактыўным праектарам. Раней, гэтая перш за ўсё галерэя фатаграфіі, функцыянавала па прынцыпе шоў-рума, з прадстаўленымі працамі беларускіх аўтараў, але цяпер гэта паўнацэнная выставачная прастора амаль у 400 кв.м (агулам Цэнтр налічвае 600 кв.м), якая можа быць трансфармаванай пад задачу: выставу, прэзентацыю, адкрытую лекцыю, творчы вечар, кінаагляд ці іншае мерапрыемства. Спазіраючы на фатаграфіі, якія на выставе «Адухатворанае цела. Цела як прадмет» прадстаўляла Вольга Рабецкая (танцорка, перформерка танца Skvo's Dance Company), я размаўляў з Марыяй Значанок, намесніцай дырэктара «Студыі 67»:

— Спачатку на працягу доўгага часу ў нас акцэнт ставіўся на школу мастацкай фатаграфіі, таму што ў Беларусі няма навучання ў гэтым кірунку. Фотаздымкі прадстаўлены ў галерэях, але ніхто не прадае гэтую прадукцыю і не прасоўвае яе аўтараў. Мы паклапаціліся таксама прэзентацыямі фільмаў, часта не паказваных да гэтага часу, нават з савецкіх часоў. З часам мы аб'ядналі іх з канцэртамі. Гэта не зусім проста студыя і галерэя, але культурны цэнтр, хоць накіраваны у першую чаргу на дзейнасць школы фатаграфіі. Студэнты могуць самі выбраць пакет прадметаў, якімі хочуць займацца. Мы праводзім бясплатныя публічныя лекцыі, не толькі пра фатаграфіі, але, як у апошні час, пра горадабудаўніцтва, на працягу якіх расказваюць аб ім рабяты з Бельгіі ці Германіі. Выступаюць у нас «ПортМонэ» ці «Сярэбраная свадзьба», разам з Інстытутам імя Гётэ праводзім фестываль электроннай музыкі...



Будынак ЦСМ

Са студыяй звязаны многія вядомыя і паважаныя не толькі ў Беларусі фатографы, як Міхаіл Лешчанка, Аляксандр Веледзімовіч, Ягор Войнаў, Андрэй Дубінін ці Максім Шумілін, вядомы ў Беластоку ўжо з дзвюх выстаў у галерэі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. У мяне склалася ўражанне, што «Студыя 67» расце ў адзін з самых важных цэнтраў сучаснай, незалежнай культуры Мінска.


Праца з выставы «Адухатворанае цела. Цела як прадмет»

Паволька вяртаючыся ў гатэль, перасеўся я на плошчы Якуба Коласа. Пераходзячы каля помніка паэту, я зірнуў на адкрытую дзень раней вулічную выставу, ужо чацвёртую ў серыі «Артыст і горад». Пасля прэзентацыі ў адкрытай прасторы Марка Шагала, Казіміра Малевіча і калектыўнай выставы васямнаццаці беларускіх мастакоў, на гэты раз мінакі могуць усё лета з фотарэпрадукцый памерамі 1,5 на 2 метраў знаёміцца з творчасцю загінулага трагічна ў Італіі ў 1996 годзе сюррэаліста Міколы Селяшчука, аднаго з сучасных класікаў беларускага мастацтва, званага беларускім Сальвадорам Далі. Арыгіналы паказаных тут работ знаходзяцца ў некалькіх музеях Мінска, Магілёва і ў прыватных калекцыях.

У адкрытай прасторы Мінска ў час маёй пабыўкі меў быць паказаны дублікат беларускага павільёна на 56 Венецыянскім біенале, інтэрактыўнай выставы фатаграфій з часу Першай сусветнай вайны «Архіў сведкі вайны». На жаль, па тэхнічных і матэрыяльна-лагістычных прычынах ён прадстаўлены быў толькі ў Венецыі. Якраз калі я быў у беларускай сталіцы, прама з адкрыцця біенале вярнулася яго сакуратарка Вольга Рыбчынская. Выклала яна канцэпцыю, якая спадарожнічала фарміраванню біенале:

— Гэты праект прапануе гледачу ператварыцца з пасіўнага назіральніка ў актыўнага ўдзельніка, пакінуць сведчанне аб падзеі, што адбылася сто гадоў таму, і якая да гэтага часу не скончылася, не спынілася. Мы звяртаемся да тэмы вайны, якая запусціла адлік глабальным катастрофам XX стагоддзя. Удзельнік праекта выбудоўвае сваю структуру сувязей паміж падзеямі, выходзячы за рамкі традыцыйнага прадстаўлення аб гістарычным часе. Гаварыўшы пра мінулае, робіць характарыстыку свайму цяперашняму, выбудоўвае сцэнары развіцця будучыні. Мадэль узаемадзеяння з гледачом будуецца на фатаграфічных дакументах Першай сусветнай вайны, да якіх можна дакрануцца, дэталёва разгледзець. А дзякуючы ўнікальнай інфармацыйнай сістэме, інтэгруе сваю гісторыю, сведчанне, пытанне ў глабальнае інфармацыйнае поле. Сістэма рэгіструе ўзаемадзеянне з архівам кожнага наведвальніка. У выніку кожны атрымае вынік сваёй працы ў павільёне, сваю гісторыю і сведчанне, інтэрпрэтацыю ўласнага актуальнага разумення тэмы праз фатаграфічную карцінку. У рамках праекта сфармавалася прастора для рэалізацыі канцэпцыі «шматгалосся гісторыі», множнасці, сукупнасці гісторыі. Што тычыцца фатаграфій Першай сусветнай вайны, то гэты выбар грунтуецца на факце малой вывучанасці і вынікаючай з гэтага адсутнасці замацаванага за архівам адзінага ўстойлівага значэння, не сфармаваных вакол гэтага архіва ідэалагічных і гістарычных стэрэатыпаў у Беларусі. Больш за тое, фатаграфіі, складваючыя архіў, зробленыя не прафесійнымі вайсковымі фотажурналістамі, але самімі непасрэднымі ўдзельнікамі падзей — афіцэрамі германскай і расійскай армій — сведкамі вайны. Праект сапраўды шматузроўневы і шматвектарны.

Нарэшце, у прыцемках я сеў у метро, пераходзячы раней падземным пераходам побач старэйшай прадавачкі ландышаў, якія толькі за пару тысяч рублёў можна было купіць практычна ў любым пераходзе. У лініі метро — слухаючы штохвіліну рознага роду папярэджанні, такіх каб я трымаўся поручняў і не рызыкаваў інваліднасці — толькі цяпер я заўважыў, што трымаю ў кішэні штаноў трамвайныя, аўтобусныя квіткі з усяго дня. Я ўвесь час памятаў сцэну з трамвая перад РТБД (чыталі вы ў папярэднім адрэзку). Я не адважыўся засмечваць «горад сонца», як Мінск калісь назваў мастак, перформер, пісьменнік, фатограф, кіраўнік культавага часопіса «pARTisan» Артур Клінаў.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Аляксей Харкевіч: Яшчэ раз успомнім...



6 мая 2015 года адышоў ад нас Аляксей Харкевіч. Пражыў ён даволі доўгае (82 гады) жыццё. І пражыў яго працавіта і бесканфліктна. Ён любіў жыццё і людзей — і людзі яго любілі. Жыў ён у Гайнаўцы, а паходзіў з вёскі Лешукі, з якой ніколі не парываў актыўнай сувязі. І там, каля сваіх бацькоў, выбраў сабе месца вечнага спачыну.

Па прафесіі Аляксей быў настаўнікам і гарцэрам. Любіў ён гэтыя прафесіі, любіў дзяцей і моладзь, вельмі лёгка кантактаваў з імі. Дзяцей сваіх Аляксей не меў, але сваіх хросных меў многа. Ён хрысціў, вучыў, выхоўваў, вянчаў і адпяваў. Усё гэта Аляксей умеў рабіць і рабіў, бо яго прасілі. Рабіў гэта коштам свайго вольнага часу і часам нават коштам свайго здароўя. Такім ён быў чалавекам. Быў добрым і вясёлым чалавекам, добрым беларусам і хрысціянінам.

Да канца дзён сваіх быў вельмі актыўным членам гайнаўскага беларускага хору і царкоўнага хору.

Вельмі многа свайго часу і фізічнай працы Харкевіч прысвяціў пабудове і арганізацыі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Гэта ў асноўным ён расчышчаў пляц пад будову музея, збіраў грошы на музей, выгружаў будаўнічыя матэрыялы і выконваў мноства іншых прац пры будове музея. Потым рэгулярна наведваў музей і дапамагаў арганізаваць музейныя мерапрыемствы. Аляксей Харкевіч пастаянна выбіраўся ва ўлады Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Вечная яму памяць і няхай родная зямелька будзе яму пухам!

**Васіль САКОЎСКІ**

* * *

Спадар Аляксей Харкевіч быў моцна звязаны з нашым Беларускім музеем і, зразумела, з тымі, хто працаваў у ім. Супольна з Кастусём Майсенем і іншымі дзеячамі клапаціўся аб усім, што было звязанае з заснаваннем і пабудовай нашага Музея. Амаль кожны дзень, апоўдні, можна было пачуць яго голас і пытанне: „Што чуваць, як жывяце?". Да апошніх сваіх дзён прыходзіў, пытаў, дапамагаў. Праўда, два дні перад смерцю не змогу ўжо да нас зайсці. Значыць, сапраўды вельмі дрэнна сябе адчуваў. Аб смерці нашага дарагога спадара Алёшы мы даведаліся ў сераду, раніцай. Гэтую сумную вестку перадаў нам журналіст Радыё Беласток Марк Заброцкі. Калі я гэта пачула, сказала, што гэта напэўна памылка. Немагчыма, каб такі жыццярадасны і адданы беларускасці чалавек памёр! Аднак прыйшлося нам развітацца з Аляксеем Харкевічам.

Мінула пяць тыдняў, як спадар Харкевіч не зайшоў да нас, не запытаўся, што чуваць. Усё ж такі здаецца яшчэ, што недзе ў поўдзень пачуем стуканне ў дзверы і яго вясёлы голас...

Светлая памяць яшчэ доўга будзе жыць у сэрцах тых, хто ведаў спадара Аляксея Харкевіча.

**Анджаліна МАСАЛЬСКАЯ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мартынка з Падрэчан

Мартынка Кандрацюк перамагла ў намінацыі „Лепшы малюнак, пластычная праца пра Беларусь". Ёй пяць годзікаў, яна яшчэ нясмеленькая, сама не адважылася расказаць пра сябе, таму распавяла пра бадай наймалодшую лаўрэатку конкурсу „Пазнай Беларусь" ейная мама, Данута Кандрацюк.

Мартынка зараз вучыцца ў дашкольным класе Комплексу школ у Чыжах. У школе яна першы год, але з верасня пойдзе ўжо ў першы клас. Сям'я Кандрацюкоў жыве ў Падрэчанах і Мартынка ў школу даязджае або на школьным аўтобусе, або з бацькамі на сямейнай машыне. Яна, пакуль, у сям'і Дануты і Дар'юша Кандрацюкоў адзіная дачушка. Рысаваць, галоўным чынам, вучыць Мартынку настаўніца Барбара Юрчук, якая вельмі руплівая апякуецца сваімі дашкольнікамі. І калі Мартынка вернецца дадому, таксама рысуе з запалам. Крэдкі — гэта яе галоўныя цацкі. Галоўным чынам Мартынка рысуе звярынак, кветкі, матылькі — яна захапляецца прыродай, дзе поўна найпрыгажэйшых колераў. Яна расце на прыродзе, гэта ее асноўнае асяроддзе — з ранку да вечара. Мартынка прабуе ўжо самастойна спяваць. Чытаць яшчэ, пакуль, не вучылася — гэтыя тайны ў яе наперадзе.



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

А калі пазнае літаркі, мабыць імі будзе гэтак жа віртуозна карыстацца, як цяпер крэдкамі, ствараючы, магчыма, як цяпер рысавальныя, так пазней і пісьменскія жамчужыны.

Далейшых поспехаў Табе, Мартынка!

**(ав)**



Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА

# ЭКСКУРСІЯ Ў БЕЛАСТОК

Вучні трэцяга класа Гімназіі з Нараўкі былі на экскурсіі ў Беластоку. Нас зацікавіў „Фестываль навукі". На самым пачатку мы паехалі ў Вышэйшую медыцынскую школу і пайшлі на даклад на тэму генетычна мадыфікаваных арганізмаў (ГМА). Хаця мы даведаліся, што не можна есці мадыфікаванай ежы, таму што яна шкодзіць нашаму здароўю, даклад не ўсім падабаўся. У зале былі такія дзяўчаты, якія голасна гаварылі і перашкаджалі слухаць.

Потым мы пайшлі на заняткі ў лабараторыю. Іх вяла вельмі сімпатычная спадарыня. Там мы зрабілі свой адзін прэпарат і глядзелі тканкі пад мікраскопам. У наступнай зале мы бачылі ДНК банана, трускалкі і ківі. Гэтыя заняткі нам вельмі падабаліся, але мы зразумелі, як цяжка быць студэнтам. На заканчэнне навуковых эксперыментаў мы зрабілі сабе здымак перад будынкам школы і паехалі ў оперу, каб пабачыць адзенне акцёраў. Гэта таксама нам вельмі падабалася

На канец мы паехалі на фільм „Gorący pościg". Мы думалі, што фільм будзе цікавы, аднак так не было.

Дахаты мы вярнуліся вельмі стомленыя, але задаволеныя, што пабачылі столькі цікавых рэчаў.

**Гімназісткі з Нараўкі: Аня, Магда, Наталля, Ася, Вікторыя, Наталля**

*Кацярына МУЧКО*
*Гімназія ў Нараўцы*

## Дзе ты?

*Чакаю ўжо так доўга.*
*Мае вочы поўныя слёз,*
*якія можа сёння памруць,*
*хацелі б ужо апошні раз*
*пабачыць твае зрэнкі.*
*Каб яшчэ раз пабачыць у іх*
*нашае даўняе, супольнае жыццё.*
*І хаця хачу датկнуць ужо неба,*
*па зямлі ісці мне трэба.*
*Толькі цябе тут няма.*

***

*Калі зноў сустрэнемся,*
*буду абыякавая.*
*А ты будзеш зноў прытварацца,*
*што мяне не памятаеш.*
*Будзем зноў сябе пазнаваць,*
*боль сабе задаваць,*
*шалець як дзеці.*
*Не разлічваючы на іншых*
*будзем моцныя.*

***

*Я хіба ўжо ёсць наркаманкай,*
*бо ўжо ўзалежнена*
*ад твайго пацалунку.*
*Толькі ты мне можаш памагчы,*
*бо гэтая залежнасць вяртаецца.*
*Не хачу яе больш адчуваць,*
*бо ў зло ўсё замяняецца*
*і жыццё мае перакульвае.*

# УВАГА КОНКУРС! № 24-15

## Загадкі з роднай хаткі

**Модная паненка,**
**Як агонь, сукенка,**
**Яркая, пахучая**
**Красуня калючая.**
**Здагадайся дружа?**
**Палымнее ...**
**Р...**
**Ішоў косы,**
**доўгі,**
**босы,**
**чысты,**
**цёплы**
**і густы,**
**вымыў дрэвы і кусты.**
**Д....**

Н. А. Сторажава

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 21 чэрвеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 20-15: воўк, ландыш.**

**Узнагароду, CD з 12 беларускімі казкамі, выйграла Оля Кудашэвіч з Бабік. Віншуем!**

# Прапановы Улі і Магды як правесці канікулы

Ужо неўзабаве пачнуцца канікулы. Добра, што адпачываем ад школы, але надта многа вольнага часу прычыняецца да таго, што большасць вучняў нудзіцца.

Таму мы падумалі, што варта спісаць розныя ідэі як можна правесці канікулы. Вось нашыя прапановы:

1 Купі сабе кніжку, у якой знойдзеш фатаграфіі і апісанне лекавых зёлак. Калі паедзеш да бабулі, пойдзеш і пашукаеш іх на полі, у лесе ці на лузе. З некаторых зробіш лякарства, а іншыя можаш прадаць. Апрача таго сваімі ведамі сшакіруеш у наступным годзе настаўніка прыроды або біялогіі.

2 Пачні чытаць цікавую кніжку. Пры яе дапамозе паедзеш у падарожжа разам з героямі кніжкі.

3 Можаш хадзіць у ягады і суніцы. Зробіш з іх смачнае сочыва. Рэшту прадасі і будзеш мець на марожанае.

4 Дапамажы суседу збіраць трускалкі (у кошык, а не ў рот), можа заробіш крыху грошай на свае патрэбы.

5 Летнімі вечарамі ці раніцамі можаш паехаць на веласіпедную экскурсію па пушчы або па ваколіцы і фатаграфаваць прыроду (у наступным годзе будзе здымак на конкурс).

6 У гарачыя дні пайдзі на пляж або спрабуй лавіць рыбу. Будзеш загарэлая і не галодная.

7 Калі бабуля патрапіць вышываць крыжыкам, можа цябе навучыць гэтаму занятку. Можаш навучыцца рабіць на прутках або кручком. Навучыся ад бабулі народных песень.

8 Калі здарыцца нешта цікавае, напішы на гэтую тэму апавяданне або верш. Кожны з нас можа спрабаваць быць паэтам або пісьменнікам.

9 Калі ты яшчэ малы, гуляй на панадворку, у хаце насядзішся зімой. Сам можаш прыдумаць нейкія цікавыя гульні.

10 Палюбі актыўную форму адпачынку: шпацыруй, гуляй у валейбол і футбол, едзь на веласіпедную экскурсію.

11 Прыедзь над вадасховішча Семяноўка, там заўсёды многа атракцыёнаў.

Калі ўсе чытачы „Зоркі" напішуць свае прапановы, атрымаецца адмысловы дапаможнік для тых, хто не ведае, што зрабіць з вольным часам.

Сябры, чакаем вашых прапаноў.

**Уля Марчук і Магда Бяляўская, Гімназія ў Нараўцы**

# Вершы Віктара Шведа

## Спагадлівы муж

— Вясенняя пагода,
Працуеш ты заўсёды,
Як руплівая маці
Мыеш падлогу ў хаце.

Лепш выйдзі з хаты нетраў,
Свежым дыхні паветрам,
Праз нейкую хвіліну
Памый нашу машыну.

## Матуля ўсыпляе сына

Маці ўсыпляе Янку
Спявае яму калыханкі.
Трэцюю ўжо спявае,
А Янка не засынае.

Нервуецца, як ніколі
Сынок, ці мне спаць дазволіш,
Ці будзеш спяваць да паўночы
Каб я не самкнуў свае вочы?

# СМАЧНАЯ ЯДА

*(туркменская казка)*

Жылі-былі на свеце маці і сын. Маці кожны дзень працавала ў полі, а калі вярталася дамоў, гатавала абед. Яна многа працавала, каб пракарміць сям'ю. Затое сынок быў ленагуз і абібока. Замест дапамагаць маці, ён прыкідваўся вечна занятым. Аднойчы маці пайшла ў поле, а сын застаўся ў хаце. Ён цэлы дзень марудзіў і лічыў птушак на небе, а калі стаміўся сваёй бяздзейнасцю, заснуў. Вечарам прачнуўся і папрасіў у маці есці. Маці наклала яму на талерку варанай фасолі і паставіла на стол. Хлапец пакаштаваў і адлажыў лыжку:

— Не буду есці гэтага бобу. Мне абрыдла ўжо твая фасоля як горкая радыска.

Маці нічога не адказала.

Раніцай, на другі дзень, маці абудзіла сына і кажа:

— Сёння разам пойдзем у поле. Няма чаго табе аднаму сядзець у хаце.

Сын пайшоў з маці на працу і ўвесь дзень завіхаўся ля работы. Вечарам, калі яны вярнуліся дамоў, маці зноў дала яму талерку фасолі.

Сын усё з'еў і сказаў:

— Ну, сёння фасоля была надта смачная. Не тое, што ўчора!

Маці толькі заўсміхнулася ды сказала:

— Ведаеш, сынок, сёння я дала табе з'есці тую самую фасолю, якой ты ўчора не схацеў есці.

***(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)***

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 24-15

Адказ на крыжаванку № 20:

Нос, май, пакой, страла, травень, рамень, арак, ой, іва. Ом, строй, астра, рама, паверх, палена, канькі, сайт, ява.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Тамаш Галёнка, Дзям'ян Іванюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Дыяна Хіліманюк, Наталля Пашкоўская** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Kino | | Baran / Raj | | | | | | Kalka |
| | Wróżka | Kasza / Miss | | | | | Trzcina / Rzeka | | | Piękna | |
| | Pokój | | | | | | Rosa / Nos | | | | |
| Suszarka do włosów | | | | | | Ilość | | | | Ciąg | |
| | Przechodzień / Sen | | | | Kaczeńce / Bo | | | | | | |
| | Pan | | | Bis | | | | | Jak | | |
| | Wianek | | | | | | Noga | | | | |


■ «Знічка» ў 2015 годзе

# «Знічцы» — дваццаць гадоў

**Беларускі вакальны калектыў «Знічка» быў арганізаваны ў 1995 годзе ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы і адразу стаў візітнай картачкай школы. Яго стваральніца — настаўніца музыкі Бажэна Ляўчук па сённяшні час пасляхова кіруе славутым вучнёўскім калектывам.**

Рэпертуар «Знічкі» ў асноўным абапіраецца на беларускія эстрадныя творы і беларускі апрацаваны фальклор. Калектыў таксама займальна выступаў з беларускім неапрацаваным фальклорам, бардаўскімі творамі і песнямі на іншых мовах. Зараз у калектыве співаюць дзяўчаты і хлопцы з Гайнаўскага белліцэя. Галоўны козыр «Знічкі» — высокі ўзровень спеву, дзякуючы чаму калектыў штогод становіцца лаўрэатам цэнтральных элімінацый фестывалю «Беларуская песня». Удзельніцы школьнага калектыву заваёўваюць таксама прызы падчас сольных выступленняў. Калектыў часта перамагае на аглядзе «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», якія першапачаткова арганізаваліся ў Гайнаўскім белліцэі, а зараз ладзяцца ў Гайнаўскім доме культуры, а таксама на іншых конкурсных аглядах. Сваімі выступамі «Знічка» перш за ўсё ўпрыгожвае школьныя мерапрыемствы, захапляе публіку падчас беларускіх фэстаў і іншых мерапрыемстваў у Гайнаўцы і іншых мясцовасцях Беласточчыны. Цяперашнія і былыя ўдзельнікі «Знічкі» вельмі цёпла ўспамінаюць выступы ў Рэспубліцы Беларусь, Германіі і ў розных гарадах Польшчы.

Набор у школьны вакальны калектыў і першыя рэпетыцыі адбыліся ў верасні 1995 года. На працягу месяца белліцэісткі развучылі першыя беларускія песні і ўжо ў кастрычніку гэтага ж года выступілі ў сваёй школе падчас Дня настаўніка. Пазней былі іншыя выступы і пасляховы ўдзел у пачатку 1996 года ў фестывалі «Беларуская песня», калі белліцэйскі калектыў на цэнтральным аглядзе заняў другое месца. У 1998 годзе падчас фестывалю «Беларуская песня» белліцэісткі атрымалі кубак тадышняга прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча і ўзнагароду Радыё Беласток — магчымасць запісаць аўдыякасету ў студыі «Рэмбрант». У выніку з'явілася першая касета «Шчаслівы вальсок». Таксама ў 1998 годзе журналістка нашага тыднёвіка Ада Чачуга ў артыкуле назвала калектыў белліцэістак «Знічкай», маючы на ўвазе загаловак песні, якую гурт праспяваў. Гэтая прапанова спадабалася і белліцэісткам, і іх апекуну Бажэне Ляўчук, і ў выніку стала назвай калектыву.

— Спачатку мы спявалі песні са спеўнікаў і бралі іх з іншых даступных нам крыніц, а акампанемент састаўляў губны гармонік, — сказала музычны кіраўнік гурта Бажэна Ляўчук, выпускніца Бельскага белліцэя і эстраднага аддзялення Універсітэта культуры ў Мінску.

У 1999 годзе «Знічка» ўдала запрэзентавалася ў Бельску-Падляшскім падчас фестывалю «Бардаўская восень». Два гады пазней калектыў атрымаў грант Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, дзякуючы якому з'явіўся кампакт-дыск «Новае» з беларускімі эстраднымі песнямі.


■ «Знічка» ў 2005 годзе

— У нашым рэпертуары прысутныя патрыятычныя беларускія песні, якія ўзмацняюць патрыятычны дух. Мы выконваем іх падчас святкавання ў нашай школе Акту 25 Сакавіка і ў час іншых мерапрыемстваў. Калядкі развучваем зімой. Наш пастаянны рэпертуар гэта беларускія эстрадныя песні. Песні, якія я падбірала для «Знічкі», кансультавала з вучаніцамі. Пазней дзяўчаты выявілі ахвоту выступаць з фальклорам. Нашы даўнія песні сталі спяваць Ілона Карпюк, Магда Чыквін, Амелія Горбач, Аня Петручук. Фальклор знаходзіцца на нашым кампакт-дыску «Пульс хвіліны», які быў выдадзены на сродкі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, — сказала Бажэна Ляўчук. На згаданай кружэлцы апынуліся таксама польскія творы, якія салісткі «Знічкі» прэзентавалі на польскамоўных конкурсах.

Салісткі белліцэйскага калектыву часта перамагалі на фестывалі «Беларуская песня». У ранейшых саставах «Знічкі» спявалі, між іншым, Іаанна Масайла, Бэата Брэнька, Ілона Карпюк, Іаанна Врублеўская, Марта Грэдаль (зараз пасляхова вядзе «Студыю песні» ў Гайнаўскім доме культуры), Юліта Назарка, Амелія Горбач, Магда Чыквін, Малгажата Карпюк, Рэната Тушынская, Дар'я Маркевіч і іншыя пявунні.

— Мы выхоўваемся ў беларускім асяроддзі, вучымся ў белліцэі. Нам падабаюцца беларускія песні, з якімі выступаем. Дзякуючы нашаму калектыву ў нас ёсць магчымасць выступаць у розных месцах, — заявілі белліцэісткі.

«Знічка» ўдала прэзентавалася падчас Сустрэч нацыянальных меншасцей у Пуньску, Фестывалю нацыянальных меншасцей у Гданьску, Агляду нацыянальных і этнічных меншасцей «Супольнасць у культуры» ў Варшаве і ў Магільне Куяўска-Паморскага ваяводства. Захапляла публіку сваімі выступамі ў Беларусі: у Мінску, Гродне, Пружанах і Свіслачы ды ў Германіі — у Берліне.

— У «Знічцы» займаюцца асобы, якія вельмі любяць спяваць. Без гэтага не было б сэнсу гуртавацца ў вакальным калектыве і моладзь не рашалася б адводзіць вольны суботні або нядзельны час на выезды з гуртам і выступы. Вучням патрэбныя таксама выступы перад публікай, напрыклад, у Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку, калі тая горача ўспрымае наш спеў, дадае энергіі да далейшай супольнай працы. Характар нашага калектыву і сардэчную атмасферу ў ім ствараюць нашыя спевакі — зжытыя з сабой дзяўчаты і хлопцы. Гэта было відаць хаця б падчас кірмашу, прымеркаванага да Раства Хрыстовага ў Берліне. У час такіх выездаў адбываецца інтэграцыя членаў «Знічкі», завязваюцца больш цесныя сяброўствы, што спрыяе дзейнасці нашага калектыву, — сказала Бажэна Ляўчук.

Белліцэісткі Іаанна Раманюк і Наталля Мусюк удакладнілі, што зараз у гурце выступае 8 дзяўчат і 3 хлопцаў.

— Я вельмі люблю спяваць і апрача «Знічкі» спяваю таксама ў царкоўным маладзёжным хоры Свята-Троіцкага сабора. У нашым калектыве вельмі мілая атмасфера і *файна* нам спяваецца, — заявіла Мілена Савіцкая, якая з беларускім рэпертуарам выступае таксама сола.

— Беларуская песня і беларуская культура перадаваліся нам нашымі продкамі і яны нам блізкія. Спяваючы беларускія песні, мы дапамагаем захаваць беларускую культуру, — адзначыў Дам'ян Маркевіч.

— Любоў да ўсяго беларускага і да беларускай песні прывіваў мне перш за ўсё мой дзядуля Сцяпан Карбоўскі, які пісаў вершы па-беларуску. У пачатку гэтага года яго артыкул быў надрукаваны ў «Ніве», — заявіла Магдалена Карбоўская.

— Вялікая любоў да спеву і ахвота выступаць у грамадзе ў асноўным вырашылі, што я спяваю ў музычным калектыве. У нашым доме гаворым па-свойму і слухаем беларускія песні. Гэта мела значэнне, калі я далучылася да «Знічкі», у якой беларускі рэпертуар, — сказала Аляксандра Якімчук.

— Хаця дваццаць гадоў дзейнасці «Знічкі» міне ў верасні, мы рашыліся адзначыць юбілей калектыву ўжо ў чэрвені ў цяперашнім поўным саставе. Некалькі ўдзельнікаў гурта гэта сёлетнія выпускнікі, якім магло б быць складана прыехаць на восеньскія святкаванні. Тады плануем зрабіць набор новых спевакоў у «Знічку» і складана было б за кароткі час падцягнуць узровень іх спеву да ўзроўню цяперашняга саставу, — сказала Бажэна Ляўчук. — Рыхтавацца да юбілейнага канцэрта мы пачалі раней, але былі матуральныя экзамены, якія здавалі некаторыя нашы спевакі і не маглі мы праводзіць рэпетыцый у поўным складзе. Зараз спатыкаемся часцей і спяваем.

— У «Знічцы» добрая атмасфера і мы моцна зжытыя з сабой. Да гэтага спрычыняецца наша пані Бажэна, якая дбае таксама, каб мы як найлепш развучвалі песні і ўдала выступалі. Мы за гэта ёй вельмі ўдзячны. Зараз не ўяўляем жыцця без «Знічкі», — сказалі Ілона Федарук, Марыя Краўчык, Аляксандра Якімчук, Магдалена Карбоўская і Дам'ян Маркевіч.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Цікавае ў Меляшках


Аня Назарка

Вёска Меляшкі мае сваю старонку на фейсбуку. Пішуць у яе і цяперашнія жыхары, і выхадцы з гэтай старажытнай (якой больш чым паўтысячы гадоў) вёскі ў Гарадоцкай гміне, змяшчаюць архіўныя здымкі і артыкулы пра сваіх жыхароў, успісваюць свае творы аўтары народжаныя і сто гадоў пасля славутага выхадца нашаніўца Янука Дарашкевіча. Аўтарка, якая падпісваецца «Касандра», лямантуе так як і пасуе да імя героіні падаючай Троі: *Меляшкі, Меляшкі, дзе вы засталіся, дзе вашы зялёныя лугі і нівы?.. Гэтая дарога далёкая ў вёску вяла, там за Рабінаўкай свой шлях завяршала. На пераломе стагоддзяў фабрыка і там была, і нароўні з бельскім сукно рабіла. У Бельску-Бялай крыніцы добрую ваду мелі, а тыя на Рабінаўцы з імі раўняліся. Лекар, шахцёр, селянін маюць тут нараджэнне, Лявон Тарасэвіч таксама мае тут сваё карэнне. Колькі маладзі тут было перад гадамі, засталіся пустыя лавачкі перад хатамі. Якія ж вяселлі, хрысціны тут бывалі — цяпер толькі пахаванні сумныя нам асталіся. Вёска ўжо змянілася, хаты аднавіліся. Людзі ўжо прыезджыя, абычай не такі самы...*

Прыязныя прыезджым меляшкоўцы, як заўсёды. Жылі заўсёды шчыра, з размахам, з гоманам. У аднаўленых хатах пасяліліся госці з усёй Польшчы. Гоман ужо штораз менш беларускі ў Меляшках. І пытанне наконт таго, хто ёсць пастаянным жыхаром, стала пытаннем рубам, ды пасля факту. Пасля выбараў солтыса ў красавіку гэтага года, калі мінімальна перамагла саперніца «старой» солтыскі Ані Назарка. «Трэба памятаць, што пастаянны жыхар гэта не той самы, што стаіць на пастаянным уліку! Як пастаянны жыхар павінен разглядацца чалавек, які жыве ў вёсцы, і напрыклад дадаткова ў ёй працуе і не мае намеру ў хуткім часе мяняць працу, прадаць дом або з'ехаць. Напрыклад, пастаянным жыхаром вёскі павінен быць палічаны чалавек, які валодае домам у гэтай вёсцы, плануе працягваць жыць тут, але прапісаны, напрыклад, у горадзе або ў іншым сяле, таму што, напрыклад, гаспадарыць на дзвюх гаспадарках, а ў месцы прапіскі на самой справе не жыве. У невялікіх мясцовасцях, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць, не павінна быць праблемай прылічэнне кагосьці да пастаянных жыхароў — суседзі вельмі добра ведаюць, хто на самой справе жыве ў вёсцы, а хто «летнік» і ў загараднай хаце бывае толькі зрэдку», — прыводзіць правілы пан Севастыян, якому не сыходзіліся лікі асоб з правамоцнымі галасамі. Аддаў ён голас за спадарыню Анну Назарка:

— Я б сказаў, што дзякуючы спадарыні Анне Назарка, якая была выбрана вясной 2011 года, перамагаючы таксама мінімальна шматгадовага солтыса Віктара Лотыша, гэта функцыя набрала цалкам новага значэння. Ніхто ў той час таксама не быў у змозе ўявіць, у якім напрамку пойдзе вёска пры яе ўладзе. Вядома, тую турботу, а нават і апаску выклікала тое, што папярэдні солтыс выконваў свае абавязкі аж тры тэрміны падрад. Новая солтыска першы раз паказалася восенню гэтага самага года ў час адкрыцця новай адрамантаванай вясковай святліцы. На ўрачыстасць удалося запрасіць войта Гарадоцкай гміны і настаяцеляў царквы і касцёла ў Гарадку дзеля пасвячэння аб'екта. Было сімвалічнае перасячэнне стужкі і поціск рук старога солтыса і новай солтыскі — сімвалічнае пераданне рулёў кіравання Меляшкамі. Больш-менш з таго часу асабліва маладыя жыхары вёскі пачалі прыкмячаць у асобе спадарыні Назарка амбітнага чалавека, з вялікай ахвотай дзеяння і вельмі актыўнага ў справах, якія датычаць Меляшкоў. Ужо ў кастрычніку 2011 года стала яна найбольш актыўным солтысам месяца Гарадоцкай гміны і дала інтэрв'ю «Гарадоцкім навінам», у якім падвяла дасягненні (аснашчэнне святліцы ў настольны гульні і стол для настольнага тэніса, паказ фільма «Балада пра Меляшкі», вясковая забава, вогнішча для дзяцей, запусты ў святліцы). Намеціла перад сабою канкрэтныя мэты, між іншым сарганізаванне ёлкі для дзяцей, навагодняга балю для ўсёй вёскі і падключэнне святліцы да каналізацыі. Большасць мэт зрэалізавала. У святліцу прывезлі настольную гульню ў футбол, штогод адбываўся падвойны «сільвестар», ёлкі для дзяцей — усе мерапрыемствы адзначаны ў хроніках і на сайце, з якімі солтыска актыўна супрацоўнічала. Умее яна дагаварыцца і з маладзейшымі, і старэйшымі жыхарамі вёскі. У 2013 г. у Меляшкі завіталі некалькі рэгіянальных музычных калектываў і хароў, якія выступалі ў святліцы. Можна было пачаставацца традыцыйнымі стравамі, паглядзець мастацкую частку. Праз вёску прайшла пілігрымка на Грабарку, Меляшкі прынялі паломнікаў арганізавана, шчыра і багата...

Анна Назарка, стартуючы ў выбарах, да таго што не ўдалося зрэалізаваць за чатыры гады, даклала была чарговыя заданні, рэальныя для зрэалізавання. Разам з салэцкай радай планавала аднавіць гуртак вясковых гаспадынь, мэтай якога было б хадайніцтва за еўрасаюзныя датацыі на дадатковае абсталяванне святліцы. Ад канікул мае быць у святліцы бесправодны доступ да сеткі інтэрнэт. Паявяцца камп'ютары. Гуртох гаспадынь будзе хадайнічаць за збудаванне побач святліцы пляцоўкі гульняў для дзяцей, плануе старацца за сарганізаванне гмінных дажынак у Меляшках. Гады працы паказваюць, што ўсё магчымае для рэалізацыі.

— Выконванне функцыі солтыса было для мяне таксама выклікам, — успамінае Анна Назарка. — Вяду я сваю гаспадарку, працую таксама апякункай у Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі. Стала я мацнейшай, навучылася працаваць з людзьмі. Гэта ёсць служба людзям. Я хацела разбудзіць нашу мясцовасць, такую каліць гаманлівую, у якой практычна ўсё зацікла. Даць людзям падставу для дзеяння і шанц для большай разнастайнасці штодзённага жыцця. Людзі горнуцца да працы. Усе мы цяпер свядомыя, што Меляшкі іншыя, змяніліся з сельскагаспадарчай вёскі на дачна-летнюю. Нашы дзеянні ўспрымаюцца не толькі карэннымі жыхарамі, але і прыезджымі.

На выбарах на пасаду солтыса перамагла наступная баявітая жанчына Леаніла Лавіцкая, з хаты нумар 20 у Меляшках.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Конкурс „Пазнай Беларусь"

1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей, у глядзельнай зале Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбылося падвядзенне вынікаў ладжанага Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы конкурсу „Пазнай Беларусь". Мерапрыемства вёў намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень, а ўзнагароды лаўрэатам конкурсу ўручалі, м.інш. дырэктар КЦБ Эдуард Швайко, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі і вядомы мінскі пісьменнік Уладзімір Ліпскі.

Эдуард Швайко павіншаваў прысутных наймалодшых з Міжнародным днём абароны дзяцей. Паведаміў ён, што на конкурс было даслана звыш чвэрці тысячы прац, найбольш у катэгорыі малюнкаў і пластычных работ. Вельмі прыемна, дадаў, што конкурс задавальняе задуманыя мэты, г.зн. развіццё творчых здольнасцей дзяцей. Радуе таксама тое, што дзеці з Польшчы даведваюцца пра Беларусь, цікавяцца яе сучасным жыццём і гісторыяй, што спрыяе развіццю міжкультурных суседскіх сувязей.


Уладзімір Ліпскі падпісвае сваю кнігу Кінзе Бах са школы ў Шудзялаве ў прысутнасці настаўніцы Тацяны Андрацкай

Госцем падвядзення вынікаў конкурсу „Пазнай Беларусь" быў пісьменнік з Мінска Уладзімір Ліпскі, аўтар шматлікіх твораў для беларускіх дзетак. Перад уручэннем узнагарод лаўрэатам конкурсу ён выступіў з кароткай прамовай...

Усім пераможцам — мой падарунак, „Казка пра А і Б". Заўважце, якая багатая, меладычная, музычная беларуская мова. Казка складзена са слоў, якія пачынаюцца з А і Б. Альбо А і Б ўсярэдзіне або ў канцы, за рэдкім выключэннем.

Аднойчы з азбукі Антося адляцелі А і Б. Барбос брахаў, біў аб будан абы-дзе. Антось адмовіўся ад абеду, абуўся, апрануўся. Барбос з біноклем бегаў пад балконам адшукваць А і Б. Антось і Барбос адправіліся ў Афрыку: Ах, Афрыка! Антось аб'еўся ананасамі, Барбос бананамі; А і Б не адшукалі. У адчаі аблачынкай аб'яву адправілі: Хто бачыў А і Б? Акіян аглядаюць акулы, балоты баламуцяць бегемоты, авечка адуванчык абдзьмухвае, а арол акуляры адразу адрамантаваў, бусел, бусліха, бусляняты буслянку аглядаюць, алень алешнік акуратна азірае, барадаты Баравік па бары блукае, Антось на асле астравы аб'язджае, Барбос на бабры берагі аплывае, а ў аўторак апоўдні А і Б арганізавалі адмысловы ансамбль: А акала, а Б бэкала. Апладысменты!

Сябры мае, уся наша дэлегацыя і я з вялікім хваляваннем прымаем удзел у гэтай незвычайнай урачыстасці. Чаму мы такія ўзрушаныя? Таму, што верым, што ў гэтай зале сядзяць гэтыя пераможцы, будучыя, можа быць, вядомейшыя пісьменнікі. Народныя пісьменнікі, заслужаныя майстры мастацкага слова, якія скажуць сваё слова пра Беларусь нашу мілую, пра нашу мову, пра нашу культуру, пра нашу духоўнасць. Паверце, сябры мае, такой зямлі як Беларусь, і такога народа як беларусы — дазволю сабе гэта сказаць, многа куды я ездзіў, але я не сустракаў такой прыгажосці, і такой міласці, і такой дабрыні ў гэтых людзях. Уявіце сабе нашу Беларусь — яна акаймавана незвычайнымі гістарычнымі дарогамі — рэкамі: Буг, Прыпяць, Сож, Беразіна, Дняпро, Заходняя Дзвіна, Нёман. Вось у гэтым чароўным незвычайным месцы — мы, беларусы. Вечныя. Мы нікуды не хадзілі, мы на нікога не нападалі, але да нас — не лезь. Вось які народ. Не было ні газет, ні тэлебачання, ні радыё — людзі з вуснаў у вусны перадалі меладычнасць, музычнасць нашага слова. І яно святое, сёння жыве. І жыве ў Беларусі, адкуль мы прыехалі, і жыве тут, у вас. Божа мой — гэта цуд. Я віншую пераможцаў і гатоў уручыць самыя лепшыя падарункі ім; прыходзьце сюды. З радасцю.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

**Размова з Рэгінай КАТВІЦКАЙ, загадчыцай Узорнага хору Дзяржаўнай светлагорскай дзіцячай школы мастацтваў.**



# Музыка са Светлагорска

**— Які быў жыццёвы шлях Рэгіны Катвіцкай у сённяшнюю Вашу жыццёвую пазіцыю?**

— Вырасла я на Украіне, на Жытоміршчыне, у Наваградзе-Валынскім, па нацыянальнасці я полька, а жыву ў Беларусі — такая вось буйная мая геаграфія. Калісь бацькі выехалі на Украіну, але гэта ўжо іншая гісторыя. Але нешта з Украіны я ўвабрала ў сябе. Вучыцца ў музычнае вучылішча я выехала ў Беларусь, дзе і адбылося маё прафесійнае станаўленне. У Беларусі закончыла ўніверсітэт культуры. У маёй сям'і ўсе спявалі — і бабуля, і мама, і тата, і мае дзве сястры — у касцёле, усе на хорах. Усе мы пеўчыя, любім музыку і гэта прывяло мяне ў прафесіянальную музыку. І цяпер навучаю дзяцей.

**— А як Вы трапілі ў Светлагорск?**

— Банальна — выйшла сюды замуж. Тут заснавала сям'ю. І вось у Светлагорску я дваццаць два гады.

**— Гэтага не відаць.**

— Дзякую; так прыходзіцца. Працуючы з дзецьмі, трэба аставацца маладою.

**— На беластоцкі фестываль Вы прывезлі рэпертуар класікаў царкоўнай музыкі. Усё ж за гэтыя згаданыя гады Вы напэўна займаліся намнога абшырнейшым рэпертуарам...**

— Вядома. Гэта дзіцячы хор, у рэпертуары якога пласт праваслаўнай музыкі *a capella* і пласт каталіцкай музыкі з суправаджэннем. Для прыкладу, мы спяваем кантату Вівальдзі „Gloria" ў дванаццаці часцях. І беларускай аўтаркі Аліны Безансон „Меса ардынарыум". Выконваем таксама музыку абсалютна свецкую, ёсць творы адрасаваныя дзецям. Маем апрацоўкі народнай музыкі — украінскія народныя песні, і рускія народныя песні, і беларускія народныя песні. І аўтарская беларуская музыка. Вось і тут мы планавалі заспяваць „Маю малітву" на словы Янкі Купалы, але гэта, на жаль, не царкоўная музыка, аўтар яе Уладзімір Кур'ян; „Мая малітва" — наша візітная картачка, гэта адмысловая малітва за Беларусь.

**— Дзеці сказалі, што яны здабываюць музычную адукацыю...**

— Так, яны вучацца на харавым аддзяленні нашай школы мастацтваў. Дзеці іграюць на фартэпіяна...

**— І Вы там навучаеце?**

— Так, я вяду пастаноўку голасу і харавы клас.

**— Ваш хор выступае ў Польшчы другі ўжо раз. Вы ўжо выступалі ў Варшаве, у касцёле...**

— Мы прынялі ўдзел у фестывалі духоўнай музыкі „Па слядах Шапэна". Мы спявалі ў чатырох касцёлах. Спявалі там і каталіцкую музыку, і Рахманінава, і Чашнакова — аўдыторыя прымала нас з вялікім захапленнем. І вельмі дзякавалі, што такі дзіцячы яшчэ наш хор, а так прыгожа спявае. Людзям падабаецца, калі спяваюць дзеці.

**— Гэта ў Польшчы. А якія іншыя азімуты Вашых выступленняў?**

— Мы два разы выступалі ў Балгарыі, займаючы там прызавыя — першае і другое — месцы на міжнародных конкурсах. І на Украіне мы былі — у Канатопе. Раней мы гастраліравалі больш, цяпер гэта справа больш складаная. Тут і фінансы іграюць ролю, і іншыя балючыя фактары, якіх я не хачу тут краналь. Але калі з'яўляецца ў нас магчымасць, мы абавязкова, прынамсі раз у год, некуды выязджаем. А ў агульнасці гастраліруем па Беларусі, напрыклад прымалі ўдзел у магілёўскім міжнародным фестывалі духоўнай музыкі „Магутны Божа" ў 2013 годзе, і ў Мінску. Стараемся прапагандаваць музыку.

**— Ці Вашы выхаванцы спяваюць можа ў час набажэнстваў у храмах?**

— Калі нас запрашаюць. Напрыклад, на Вялікдзень нас запрасілі і мы агучылі чатыры творы ў час службы.

**— А індывідуальна яны ў службах не ўдзельнічаюць?**

— Не.

**— А як выглядае рэлігійны краявід Светлагорска? Напэўна ёсць там праваслаўныя цэрквы, а ці каталіцкі храм там таксама ёсць?**

— Натуральна.

**— Ваш горад адносна малады...**

— Так, нашаму гораду пяцьдзясят чатыры гады...

**— Раней мясцовасць называлася Шацілкі...**

— Так, і помнік Шацілу, заснавальніку мясцовасці, у нас стаіць. І колішняя вёска Шацілкі разраслася ў такі гарадок Светлагорск.

**— Назва мясцовасці падказвае, што там ёсць нейкая гара?**

— Не, гары няма. Гэта светлы горад, таму, што будаванне яго пачалося з цеплавой электрастанцыі — пайшло цяпло-святло, і назвалі Светлагорскам.

**— У мяне столькі да Вас пытанняў. А можа Вы хочаце нешта ад сябе дадаць?**

— Я вельмі ўдзячная арганізатарам — і пані Ірэне Парфянюк, і спадару Мікалаю Бушко. Нас тут прымаюць як радню.

**— Мы ж па сутнасці — радня...**

— Гэта вельмі прыемна. У нас душа радуецца. Нас тут прынялі шыкарна. І дзеці вельмі рады, і дырэктар нашай школы Наталля Зыкун, якая прыехала з намі. Тут нам цёпла і прыветліва, вельмі прыемны прыём. Мы вельмі рады, а дзеці — у захапленні.

**— Вялікае Вам дзякуй. Жадаю Вам далейшых поспехаў і радасцей.**

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

---

## http://www.veselka.by

Беларускамоўных часопісаў у кнігарнях Беларусі знайсці не тое што цяжка — практычна немагчыма. Прычына натуральная — калі за апошнее дзесяцігоддзе, згодна апошняму перапісу насельніцтва, зменшылася колькасць тых, хто лічыць роднай мовай беларускую, то наўрад ці можна чакаць, што колькасць чытачоў беларускамоўных часопісаў павялічыцца. Адпаведна і колькасць часопісаў па-беларуску не будзе расці. Разам з тым у кожным правіле ёсць сваё выключэнне. І гэтае выключэнне — беларускамоўны дзіцячы часопіс „Вясёлка", які больш за паўстагоддзя выходзіць для маленькіх чытачоў-беларусаў.

„Вясёлка" — адзінае ў Беларусі выданне для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў, якое адразу ж стала жаданым і любімым маленькімі чытачамі", — смела сцвярджае на сайце выдання, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.veselka.by**, у рубрыцы „Наш часопіс" яго галоўны рэдактар Уладзімір Ліпскі. Праўда, падаецца, што забыўся ён уставіць у свой сказ слова „беларускамоўнае". Бо менавіта беларускамоўнасць часопіса можа для пачатку прывабіць патэнцыйных дарослых чытачоў, якія б хацелі, каб іх дзеці хаця б былі знаёмыя з беларускай мовай.

Што ж тычыцца зместу выдання, то тут варта больш дэтальна пазнаёміцца з яго сайтам. Ён, як і належыць сайту дзіцячага часопіса, ярка рознакаляровы. На зялёным фоне ўверсе цэлага выяўлення месяцца назва, выйсці да розных рубрык, вокладкі некаторых часопісаў, што былі надрукаваныя раней.

Паколькі сайт вельмі стракаты, то не адразу можа ўбачыць выйсце з назвай „Буся". А гэта менавіта тое, што прымушае адчуць да тых, хто робіць „Вясёлку", пачуццё вялікай павагі. Справа ў тым, што калі „Вясёлка" з'явілася ў 1957 годзе, калі шмат што ў Беларусі было па-беларуску, то „Буся" — часопіс для тых, хто яшчэ ходзіць у прадшколле, упершыню пабачыў свет у 2013 годзе. „Пісьменнікі натхнёна ствараюць для „Бусі" новыя казкі, апавяданні, загадкі. Мастакі малююць дзівосныя малюнкі і рыхтуюць займальныя маляванкі для маленькіх бусянят. А рэдакцыя „Вясёлкі" для свайго спадарожніка распрацоўвае адмысловыя рубрыкі. Актыўна ўключайцеся ў гэтую працу і вы, дарагія нашы чытачы! „Буся" чакае ад вас цікавых аповедаў пра малодшых сястрычак і брацікаў. А бацькоў і выхавацеляў дзіцячых садкоў мы просім прысылаць свае прапановы, меркаванні і пажаданні", — распавядаецца на старонцы пра часопіс для самых маленькіх беларусаў.

Калі ж вяртацца ўласна да „Вясёлкі", то нават для тых, хто ніколі не чытаў гэтага часопіса, будзе цікава пазнаёміцца з апавяданнямі і вершамі, якія апублікаваны ў выданні. Для гэтага дастаткова „клікнуць" на адпаменныя выйсці.

Разам з тым не ўсё старонкі сайта змяшчаюць актуальную інфармацыю, таму сэнс іх існавання незразумелы. Так, на старонцы „Афіша" анансуюцца тыя фільмы і спектаклі, якія праходзілі ў мінскіх тэатрах і кінатэатрах леташняй вясной.

А вось рубрыка „Навіны" пакідае ўжо горычнае ўражанне. І ўсё з-за таго, што там усе тэксты не па-беларуску. На адзін падобны тэкст, пададзены па-руску, адна з чытачак запыталася, чаму так. Адміністратарка сайта патлумачыла гэта важнасцю SEO — прасоўваннем сайта ў пошукавых сістэмах інтэрнэта.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

### Доктар філасофіі з Дзятлаўшчыны

# 120 гадоў з дня нараджэння Ігната Дварчаніна

Выдатны дзеяч беларускага нацыянальнага Адраджэння, навуковец, паэт, пісьменнік, літаратуразнавец і філасаф Ігнат Дварчанін нарадзіўся 8 чэрвеня 1895 г. у вёсцы Погіры Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). Паходзіў з сям'і малазямельнага арандатара. У 1912 г. скончыў Дзятлаўскую школу, атрымаў атэстат народнага настаўніка. Пасля тры гады настаўнічаў у вёсцы Хмяльніца на Слонімшчыне. З траўня 1915 г. служыў у расійскім войску, ваяваў на Заходнім фронце ў чыне падпаручніка. З чэрвеня 1917 г. быў у Мінску, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. З сакавіка 1918 г. — сакратар культурна-асветніцкага аддзела Белнацкама ў Маскве. Браў актыўны ўдзел у нарадзе настаўнікаў беларускіх школ у ліпені 1918 г. У гэты час вярнуўся на радзіму. Стварыў беларускую пачатковую школу ў вёсцы Пецюкі.

У 1919 г. на віленскіх беларускіх настаўніцкіх курсах арыштаваны польскімі ўладамі як эсэраўскі актывіст, накіраваны ў лагер для інтэрнаваных у Беласток. Адтуль уцёк і перабраўся ў Мінск, дзе стаў студэнтам беларускага педінстытута. Са снежня 1920 г. да ліпеня 1921 г. у Вільні, працаваў вартаўніком, пісарам, настаўнікам у мястэчку Свір. Здаў экстэрнам іспыты за курс Віленскай беларускай гімназіі. Летам 1921 г. накіраваны ў Латвію, чытаў лекцыі па беларусазнаўстве ў Дзвінску. Адзін з заснавальнікаў там культурна-асветніцкага таварыства „Бацькаўшчына". Быў накіраваны Таварыствам беларускай школы на вучобу ў Прагу ў Карлаў універсітэт. Скончыў там у 1925 г. гісторыка-філалагічны факультэт. Праз год абараніў дысертацыю на тэму „Францішак Скарына як культурны дзяяч і гуманіст на беларускай ніве", стаў доктарам філасофіі. Стварыў у Празе арганізацыю незалежных сацыялістаў, быў старшынёй Аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў у Празе, сябрам Беларускай рады. Выдаваў бюлетэні і часопіс „Перавясла".

У 1926 г. Дварчанін вярнуўся ў Вільню, актыўна далучыўся там да беларускага руху. Быў сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства, выкладаў літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі. Пераклаў на беларускую мову паэму Аляксандра Блока „Дванаццаць". Склаў і выдаў у 1927 г. „Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры". Супрацоўнічаў з часопісамі „Родныя гоні" і „Маланка", выдаваў газету „Narodny zwon".

У 1928 г. абраны ў польскі сейм ад Наваградка, стаў сябрам пасольскага клуба „Змаганне". Быў сябрам Галоўнай управы ТБШ. У 1930 г. арыштаваны польскімі ўладамі, асуджаны на працэсе беларускага клуба „Змаганне" ажно да 8 гадоў турмы. Сядзеў у вязніцы ў польскім Равічы. Вызвалены ў верасні 1932 г. у выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай. З лістапада 1932 г. працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства.

У час сталінскіх рэпрэсій арыштаваны ў жніўні 1933 г. па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра. Быў засуджаны да расстрэлу, які замянілі на 10 гадоў савецкага канцлагера. Высланы на Салавецкія астравы, пасля на Беламорска-Балтыйскі канал. Але карнай сатанінскай сістэме і гэтага было мала. Тройкай НКВД па Ленінградскай акрузе зноў засуджаны да расстрэлу. Расстраляны 8 снежня 1937 г. Брат, Іларыён Дварчанін, таксама загінуў у савецкім канцлагеры.

У снежні 1989 г. у Дзятлаве Ігнату Дварчаніну ўсталяваны бюст-помнік.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На Сёмуху ў Чаромсе

У нядзелю, 31 траўня, праваслаўныя вернікі адзначылі Дзень Св. Тройцы, інакш кажучы, Сёмуху. У мінулым у гэты дзень сяляне на вёсках упрыгожвалі панадворкі ссечанымі маладымі бярозкамі, ставілі маявіну, пасыпвалі жоўтым пясочкам сцяжынкі. Дом унутры ўпрыгожвалі аерам. У царкве раніцай адпраўлялася набажэнства. Пасля абеду адбывалася святочнае застолле. Сусед суседа запрашаў у госці. Пастушкі на пашы сплялі з палявых кветак і бярозавых галінак вяночкі, ды закладалі іх жывёле на рогі. Так упрыгожаны статак кароў, быццам шлюбны карагод, праганялі ў абедні час з пашы дамоў. Гаспадары за гэта абдароўвалі пастушкоў смачнай ежай. Зараз можна адно паўспамінаць мінулыя будні. Цудоўныя абрады, якія спадарожнічалі святкаванню Сёмухі, адышлі ў нябыт.

Паколькі я на Тройцу сяголета застаўся „дамашом" у хаце, дык рашыў пашукаць кампаньёнаў. І трапілася нагода. На школьным стадыёне „Орлік" у Чаромсе арганізаваліся спаборніцтва па футболе і валейболе за кубак войта. Мерапрыемства пачыналася ў 13:30. Я падаўся туды з невялічкім спазненнем. На пляцоўцы „Орліка", якая мяжуе з Пачатковай школай, заспеў гульні ў поўным разгары. У валейболе саперніалі жаночая каманда „Орліка" з такой жа камандай з Гімназіі. Перамагла каманда „Орліка".

У футбольным турніры змагалася шэсць каманд. Аб чарговасці матчаў ды хто з кім меў сапернічаць рашала жараб'ёўка. Дваццацімінутны матч праходзіў у двух дзесяцімінутных турах. У групе „А" змагаліся: Насычальня — Коко Джамбо (0:3). Затым адпаведна: Коко Джамбо — Гмінная ўправа (0:0), Насычальня — Гмінная ўправа (2:2). У групе „Б" змагаліся: ОСП (пажарнікі) — Калеяж юніёр (7:1), Калеяж юніёр — Пагранічная ахова (2:4).

За трэцяе месца змагаліся: Гмінная ўправа — Пагранічная ахова. Дваццацімінутнае саперніцтва закончылася нічыёй. Вырашылі пенальці. Змаганне сапраўды было заўзятае. Канчаткова перамагла Гмінная ўправа з вынікам 5:4. У фінале сустрэліся: Коко джамбо — ОСП (пажарнікі). Так як і ў вышэй прад'яўленым выпадку, так і зараз матч закончыўся нічыёй. Рашылі пенальці. Пераможным фіналістам засталася каманда ОСП (пажарнікі) — вынік 8:7. Афіцыйныя вынікі сёлетняга спаборніцтва за кубак войта Чаромхаўскай гміны былі наступныя:

1 — ОСП (пажарнікі), 2 — Коко джамбо, 3 — Гмінная ўправа, 4 — Пагранічная ахова, 5 — Насычальня шпалаў, 6 — Калеяж юніёр. Тром апошнім камандам за ўдзельніцтва былі ўручаны памятныя статуэткі, а пераможцам трох першых месц — пераходныя кубкі. Узнагароды ўручылі войт гмігны Міхал Врублеўскі і настаўніца фізкультуры Комлекса школ, заадно апякун „Орліка" Ірэна Пашкоўская. У заканчэнні турніру войт запрасіў прысутных на сустрэчу пры вогнішчы.

Так закончыліся мае сёлетнія святкаванні Сёмухі.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

Памятны здымак войта з варатаром пераможнай каманды (самым старэйшым удзельнікам турніру) і балельшчыкамі

Пераможная каманда пажарнікаў (першы справа 60-гадовы варатар Януш Ліпінскі)

# Адгаданка

1. вокіс вугляроду, якога асаблівa шмат у... Нджамене, 2. сурагат, імітацыя, 3. калекцыянер грахоў, 4. горад на Смаленшчыне ў вярхоўях Дзясны, 5. непраходныя, глухія мясціны, 6. першая грэшніца, 7. асноўная частка дрэва, якая трымае на сабе галіны, 8. завяршальны ўдар па шахматнаму каралю, 9. Уладзімір Пракопавіч, беларускі паэт і грамадскі дзеяч, 10. цар, кароль або шах, 11. жонка Ягайлы, 12. падводная скала, 13. драпежная начная птушка з... правага прытока Дуная, 14. горад між Жытомірам і Вінніцай.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | 3 | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | | | 6 | 7 | | | | | |
| | | | | | | | | | | 8 | 9 | | |
| | 10 | | | | | | | | 11 | | 12 | | |
| | | 13 | 14 | | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Брыво, гаць, ежа, ноч, ода, урач.

Рашэнне: **На чужое дабро вочы гараць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 14.06 — 20.06

**(22.03. — 20.04.)** 13-16.06. баявіты настрой; выйграеш кожную бітву, маеш шанц на павышэнне. Пастаў на пазітыўнае мысленне. Будзь уседаравальны. Добрая аўра ад зорак. Ніякая задача не пакажацца табе складанай. Пасля 16.06. будзе выдатная нагода для рэалізацыі планаў. Можа, з'ездзіш кудынебудзь ці купіш новую мэблю? Будзеш спраўны і моцны, але дбай аб свае суставы і косці; пасля магчымай траўмы чакала б цябе доўгае лячэнне.

**(21.04. — 21.05.)** 13-17. 06. магчымыя турботы ў сямейных справах. Найбліжэйшыя могуць аказацца зусім бездапаможнымі. Але не ахвяруй сябе поўнасцю дзеля грамады. Міла можаш правесці час з сябрамі, далейшымі сваякамі. Калі цяпер лечышся, эфектаў тэрапіі яшчэ прыйдзецца пачакаць. Арганізм патрабуе многа часу і спакою на рэгенерацыю. Пільнуй дыеты. Можаш крыху падзарабіць, але не будзе гэта пастаянны прыбытак. Купляй толькі патрэбнае.

**(22.05. — 22.06.)** У сардэчных справах будзь больш рашучым. Каб пасля не шкадаваць, не адмаўляйся ад сустрэч. Калі ты без пары, знойдзеш кагосьці, хто зразумее тваю дваістую натуру. Часам не варта выходзіць перад шэраг і паказваць лішнюю ініцыятыўнасць. Слабавата з кровазваротам; калі будзеш адчуваць сябе слаба ці душна, хутка пры да кардыёлага. Высілак укладзены ў працу дасць падвойны плён.

**(23.06. — 23.07.)** Паездкі плануй з раднёй; па-за домам сустрэне цябе штосьці, што зменіць тваё жыццё ў лепшы бок. Добры час на дыетэтычнае лячэнне ці ачышчальную галадоўку — пачатая перад 16.06. прынясе вельмі відныя вынікі. Пасля 17.06. не пазычай грошай. На працы магчымая змена абсягу абавязкаў ці новая пасада. Пільнуй кашалька!

**(24.07. — 23.08.)** Ты, галодны пачуццяў, кампліментаў, захаплення і зацікаўлення, можаш кепска накіраваць і заінвеставаць свае пачуцці (аб'ект можа быць нявартым часу і ўвагі). 13-16.06. не выказвай ніякіх прэтэнзій і пакажы большую цярплівасць, каб не нарабіць сабе ворагаў. 15-19.06. варта табе паддацца натуральнай тэрапіі або формам нетрадыцыйнага лячэння, вынікі акажуцца маланкавымі!

**(24.08. — 23.09.)** Паявяцца поспехі на працы, лады ў інтарэсах. Можаш разлічваць на сяброў і падтрымку вопытных дарадчыкаў. Вельмі добры час на працы. Усё будзе ісці табе лёгка, маеш шанц заззяць як сумленны працаўнік. Можаш таксама без апаскі браць крэдыты.

**(24.09. — 23.10.)** Трымайся здалёк ад няшчырых людзей, каб не мець праблем. У пачуццях можа наступіць пералом. Калі належыш да Шаляў, якія здаўна змагаюцца за сэрца любімай асобы, твая цярплівасць будзе ўзнагароджана. Не вагайся таксама закапаць ваенны тапор з даўнім непрыяцелем.

**(24.10. — 22.11.)** Калі ўваходзіш у новую сувязь, пачнеш трактаваць яе сур'ёзна. Хоць будзеш завалены заняткамі, не адмаўляйся ад адпачынку і кампанейскага жыцця. Добрая нагода для правядзення часу таксама па-за домам — сустрэне цябе штосьці асаблівае, што можа адмяніць тваё жыццё. У гэтым месяцы можаш знайсці сваё месца на зямлі. Цяжкавата будзе табе ў жару.

**(23.11. — 22.12.)** 15-17.06. прадвяшчаецца пераломам у міжчалавечых адносінах. Пераканаешся, што хтось, да каго ты меў давер, не быў з табою шчыры. Можаш разлічваць на партнёра. Старайся лішне не выгравацца на сонцы, часцей варушыся. Варта зблізіцца да Шаляў, у іх добрыя намеры.

**(23.12. — 20.01.)** Канчай пачатыя праекты. Ад 15.06. нагоды для таго, каб разбагацець. Вернешся да старых задум. Чакае цябе поспех, пазнаёмішся з файнымі людзьмі. Абавязкова сядзь на дыету, будзе відны поспех! Адпачывай, шпацыруй. 15-17.06. пільнуй, каб хто-небудзь не заняў тваёй пазіцыі або не абразіўся на цябе; магчымыя некарысныя змены.

**(21.01. — 19.02.)** Могуць ускладніцца сямейныя справы і адносіны з іншымі. Пераканаешся, што выбар гэтай асобы быў стрэлам у «10». А чорная авечка ў сям'і зноў пакажацца. Захавай спакой. Дбай аб свой настрой, пільнуючы таксама дыету.

**(20.02. — 21.03.)** Так моцна зоймуць цябе дзеці, што на іншае мала будзеш мець часу — самі яны ўлезлі ў кабалу; дазволь ім дзейнічаць, дадуць сабе рады. Пануй над эмоцыямі. Хоць маеш вялікія прафесійныя планы, з рэалізацыяй цяпер будзе крыху вяла. Не выстартуй зарана, калі не ўсё будзе гатова. Але праца пад дыктоўку шэфа можа даць плён.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# У палескай глыбінцы (5)



У сяле Палажэва (укр. Положеве) мацней забілася сэрца. На зялёным берзе ракі Прыпяць пасвіліся статкі кароў. Карціна мела ў сабе прысмак юр'еўскага рытуалу. Побач разнаколернай рагатай жывёлы ў невялічкіх групах выстойвалі сем'і, яны нешта елі, абмяркоўвалі, талкавалі.

— Народ выйшаў каб вясной падыхаць, — кажа шафёр Міша, — і каб пра надвор'е *пабалакаць*.

На Палессі, вядомым з-за вясновых разліваў і непраходных балот, дзеялася нешта адваротнае, людзі гаварылі пра засуху і выглядалі дажджу. Я сама глядзела на раку Прыпяць і не верыла вачам. Вытокі «палескай Амазонкі» знаходзіліся дзесьці недалёка, ля вёскі Гладзін Любомльскага раёна. Самая балоцістая рака Еўропы выцякала з вышыні 168 метраў над узроўнем мора, ды тут, у Палажэве, першым пазначаным на карце сяле на рацэ, плыла адмераным, спакойным каналам, падпускаючы да берагоў людзей і жывёлу. Паміж ракой і людзьмі адчувалася прыцягванне.

* * *

Палескі каларыт прывітаў мяне ўжо ў Ковелі. У акне маршруткі, на якой я адпраўлілася праз Любомль у Шацк, красавалася незвычайная афіша. Яна інфармавала, што ў салоне адведзены спецыяльныя месцы «для чароўных дзяўчат», дзейнічае інтэрнэт, зімой і летам працуе кандыцыянер.

Я залезла ў сярэдзіну і з ходу ледзь не прысела на пазначаны трон «для чароўных». Як не цяжка здагадацца, ён знаходзіўся непасрэдна за спінай шафёра, зухаватага Мішы. Усе жанчыны, якія заходзілі ў салон, інстынктыўна абміналі гэтае месца, перліся назад, дзе было цесна і не працаваў кандыцыянер. Аж дзіўна было чаму мясцовыя прыгажуні не праяўлялі напышлівасці...

Тым часам у салон завітала падвыпіўшая жабрачка, яна адкляпала «Отчэ наш» і трагічным тонам распавяла пра свае смяртэльныя хваробы. Найгорш, што дзяржава ёй пенсіі не прызначыла. За што ёй цяпер бедная лекі набыць? Куды толькі яна не пісала? Да якіх дзвярэй не грукала за дапамогай? Не дапамаглі праклятыя бюракраты. Дык сёння ёй, хворай і пакінутай, асталася адна надзея — надзея на добрых людзей. Пасля жабрачка ў найпрыгажэйшых словах спляла пажадальны вянок у адрас патэнцыяльных дабрадзеяў, улічваючы іх дзяцей, бацькоў, дзядоў і сваякоў. Усё там было: залатыя горы, здароўе, шчасце, экзатычныя канікулы, каханне. Апрача гэтага, кожны мужык меў выйграць на латарэі нямецкае «BMW»...

Сеанс трываў роўна чатыры хвіліны. Хоць кабеціна не выглядала на смяртэльна хворую і пакінутую — ля маршруткі чакалі яе сябры з чырвонымі насамі — яна дасягнула мэты. Усе пасажыры паклалі ў яе працягнутую ручку сімвалічную грыўню. На развітанне яна прыгожа пакланілася грамадзе.

— Што, Светка зноў нас усіх абдурыла! — пракаментаваў на сімпатычнай ноце шафёр. У яго голасе адчувалася прызнанне для акцёрства ашуканкі.

* * *

Пра мястэчка Шацк, куды я адпраўлілася на той элегантнай маршрутцы, даведнікі напісалі можа тры сказы, між іншым, што там самае глыбокае возера Свіцязь — такі «ўкраінскі Байкал». А пра экалагічны стан «Байкала» заяўлялі прылаўкі на рынку ў Ковелі, дзе прадавалі тоўстых вугроў з Шацкіх азёраў. У карысць месца прамаўляў таксама лік маршрутак, якія ездзілі туды практычна кожную гадзіну.

Я села на першым фатэлі, побач «месцаў для чароўных», каб паназіраць за краявідам.

— А да каго едзем у *Шацьк?* — спытаў мяне Міша.

— Ну, мне трэба... — папраўдзе я не ведала што адказаць.

— А сустракаць цябе хто выйдзе?

— Пэўна, выйдзе — адказала я без упэўненасці.



— У цябе там сваякі? — працягваў свае допыты звышцікаўны шафёр. — Ці можа які дружо-о-ок?

Я ехала ўсляпую і спецыяльна не ведала чаго чакаць і каго выглядаць у Шацку. Таму спыніла размову і красамоўна заглядзелася ў акно.

— Вы не гневайцеся, што так пытаю, — патлумачыўся шафёр. — Я просты хлопец з вёскі.

На апраўданне і пад рогат усіх пасажыраў, ён распавёў замалёўку пра прыродную цікаўнасць сваіх аднапляменцаў. Гэта гучала прыблізна так: *Ідзе сабе вуліцай Вася. А нехта з-заду гукае: «Вася! Вася! Ты куды адвячоркам выправіўся?» — «Да кума, абмеркаваць адну справу трэба», — адказаў Вася. «Ну, то глядзі, каб добра яе абмеркавалі!» — падмаргнуў яму сусед. І ўсё, пайшоў Вася ў свой бок. Ды і каму гэта цікава, што ён пайшоў да кума малаток пазычыць? А вось у сяле атрымалася цікава. На другі дзень усё смяюцца. Адзін другому на вуха шэпча, што Вася пайшоў на ўсю ноч да кумы, каб добра абмеркаваць справу...*

* * *

Пра тое, што падарожжа самастойнай жанчыны, без мужыка, натхняе на каларытныя здагадкі, я ведала з падляшскага панадворка. Яшчэ больш знаёмым здаўся мне стары, прасочаны балотцам лес, які пачынаўся ўжо за Любомлем і нагадваў Белавежскую пушчу. Першая згадка пра Шацк таксама гучала знаёма. У пісьмовых крыніцах мясціна ўпершыню ўпамінаецца ў студзені 1410 года, калі ў навакольныя лясы адправіўся на паляванне кароль Ягайла, каб запасціся мясам перад Грунвальдскай бітвай. На Падляшшы падобнай легендай ганарацца вёскі Звяркі і Белавежжа.

Душу саграваў яшчэ гідралагічная акалічнасць. Вось, паміж вытокамі Прыпяці і цячэннем ракі Буг няпоўныя дзесяць кіламетраў. На практыцы гэта абазначала, што ў старажытнасці мог існаваць водны шлях, па якім можна было дабрацца ад вытокаў Нарвы да вытокаў Прыпяці. У зімовы час такі шлях станавіўся дарогай, па якой пешшу перамяшчаліся людзі і жывёла. Сухія і непрыдатныя для плавання адрэзкі «сшывалі» пераволокай, то-бок, лодкі перацягвалі па зямлі. У другой палове XVIII стагоддзя, дзякуючы Каналу Агінскага, які спалучыў Нёман з Прыпяццю, ідэя воднага шляху, па якім хадзілі судны і караблі ад Балтыйскага па Чорнае мора, стала фактам. Цягам наступных стагоддзяў камунікацыю на Прыпяці пашырылі Дняпроўска-Бугскі і Мікашэвіцкі каналы, якія адкрывалі дарогу ў Гданьск. Думкі пра каналы не былі выпадковыя. Іх наклікалі шматлікія меліярацыйныя канавы ў наваколлі Шацка. Таксама верхні адрэзак Прыпяці, ажно да мястэчка Ратна, мае выгляд звычайнага канала. З перспектывы сяла Палажэва цяжка паверыць, што гэты непрыкметны равок цячэ праз дзве краіны — праз Валынскую, Ровенскую, Брэсцкую, Гомельскую і Кіеўскую вобласці, што яго даўжыня ажно 761 кіламетр, што ў наваколлі Пінска ён здольны разліцца на дзясяткі кіламетраў і прыкідвацца Пінскім морам.

Каб не каровы і вяскоўцы, я сама прараніла б пачатковы адрэзак «палескай Амазонкі».

* * *

Магчыма, на той недахоп увагі для дэталей спрацаваў аратарскі талент шафёра. Міша каментаваў усё, што рухалася за акном. У маршрутцы адбывалася нешта падобнае на грамадскую тэрапію. Шафёр даказваў як вясковы прыдурак, каб коштам свайго аўтарытэту падняць настрой жанчын. Доза звычайнай весялосці выдатна развейвала дэпрэсію і прыбітасць, якая малявалася на сумных аблічча паляшучак. Усюды, дзе не глянь, кружылі адно чорныя весткі, нараканні, страх перад вайной. Ды сёння, 26 красавіка, ва Украіне быў абвешчаны дзень нацыянальнай жалобы. У медыях ад рання напаміналі аб 29-й гадавіне катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Ля Кургана памяці ў Кіеве ўсю ноч выстойвалі тагачасныя сведкі здарэння, сем'і ахвяр, маліліся духавенства. Чарнобыльская трагедыя, якая пацягнула за сабой сотні тысяч ахвяр, масавыя перасяленні, абязлюдзенне ды здзічэласць значнай часткі Палесся па сённяшні дзень не была дастаткова асветлена і асуджана. Аднак у цяні сучаснай вайны яна здавалася абжытай. Мяне шакіравала, што нягледзячы на Дзень нацыянальнай жалобы, у вёсках і мястэчках спраўлялі вяселлі з бадзёрай музыкай, якая электрызавала паветра.

— Ах вяселле, вяселле! — круціў галавой дамарослы комік Міша. — Нашыя мужыкі спачатку нап'юцца, а пасля мухаеды сабе паабіваюць. А раніцай зноў нап'юцца і будуць адбімацца...

Шацк прывітаў мяне вясельнай музыкай, якая грымела з двух бакоў вуліцы «50 гадоў перамогі». Дзякуючы падказкам Мішы, я была падрыхтаваная на казацкую прыгоду...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960